Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 43 (4894) 28 кастрычніка 2016 г.



# У ГОНАР ПЕРШАДРУКАРА

***Пастаноўкамі пра Францыска Скарыну ўжо сёлета папоўняцца рэпертуары беларускіх тэатраў***

Асновай для новых спектакляў стануць п'есы — пераможцы конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць», арганізаванага Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, а прафінансаванага «Беларусбанкам». Вынікі конкурсу падвялі ў галоўнай кніжніцы краіны.

— Налета мы будзем шырока адзначаць 500-годдзе беларускага кнігадрукавання. І ўжо сёння ідзе актыўная падрыхтоўка да гэтага маштабнага свята. Калі абмяркоўвалі папярэдні план мерапрыемстваў, то падумалі, што толькі класічных бібліятэчных, навуковых сустрэч, канферэнцый для свята будзе недастаткова. Нават сумнавата, — кажа дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі, доктар педагагічных навук Раман Матульскі. — Францыск Скарына — сапраўды велічная постаць, амаль святы. Але разам з тым гэта і звычайны чалавек, які жыў на нашай зямлі, вучыўся, працаваў, ведаў ласку лёсу, перажываў гора. Чаму ён пачаў друкаваць кнігі? Чаму стаў Скарынам? Чым ён жыў? З навуковага пункту гледжання адказаць на гэтыя пытанні вельмі цяжка. Але праз мастацтва, вобразы, творчую думку пісьменнікі, драматургі могуць даць свае адказы.

Так узнікала ідэя конкурсу. Арганізатары прызналіся: калі аб'яўлялі старт праекта, вельмі хваляваліся, што конкурс можа не зацікавіць драматургаў, а задумка не прынясе плёну. Але насцярожанасць не апраўдалася, бо да ўдзелу ў творчым спаборніцтве былі прадстаўлены 32 заяўкі ў намінацыях «Гістарычная п'еса», «Сучасная п'еса», «Сцэнічная ідэя». Гэта творы аўтараў з Мінска, Полацка, Брэста, Гомеля, Маладзечна, Віцебска, Докшыц, а таксама Масквы, Кіева ды іншых гарадоў. П'есы і сцэнічныя ідэі не толькі распавядаюць пра факты жыцця нашага выдатнага суайчынніка, але і падкрэсліваюць значнасць яго постаці ў кантэксце сучаснасці.


Фота Алеся Сушы.

*Пераможцы конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць». Злева направа: Мікалай Рудкоўскі, Цімафей Ільеўскі, Сяргей Кавалёў.*

Пераможцаў вызначыла кампетэнтнае журы на чале з мастацкім кіраўніком тэатра беларускай драматургіі, заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Аляксандрам Гарцуевым. Так, найлепшай гістарычнай п'есай быў названы твор «Францыск. Прыпавесць» драматурга і рэжысёра з Брэста Цімафея Ільеўскага, у намінацыі «Сучасная п'еса» перамогу атрымаў Мікалай Рудкоўскі з Мінска і яго твор «Доктар свабодных навук», а ў намінацыі «Сцэнічная ідэя» быў адзначаны мінчанін Сяргей Кавалёў за п'есу «Юдзіф». Уладальнікамі дыпломаў І ступені сталі Сяргей Шыдлоўскі, Арына Андрэева, Міхаіл Туруноўскі, Віктар Марціновіч, а дыплом ІІ ступені атрымала Алена Іванюшанка.

Дырэктар тэатра беларускай драматургіі Уладзімір Карачэўскі падкрэслівае:

— Спадзяюся, у гісторыі будзе працяг, гэтыя творы пачнуць сваё жыццё на сцэнічных пляцоўках Беларусі. Ведаю, што прэм'ера спектакля паводле адной з п'ес ужо 11 лістапада будзе прадстаўлена ў магілёўскім тэатры, спадзяюся, пастаноўкі, прысвечаныя Скарыну, прадставяць і на сцэне ў Брэсце. А Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі парадуе гледачоў новым спектаклем ужо ў гэтым тэатральным сезоне.

Найлепшыя п'есы, што былі прадстаўлены на конкурсе «Францыск Скарына і сучаснасць», пабачаць свет на старонках адмысловага зборніка. Выданне ўжо рыхтуецца ў Нацыянальнай бібліятэцы. Кнігу атрымаюць не толькі рэспубліканскія, абласныя, але і рэгіянальныя тэатры. Так вобраз першадрукара зможа быць увасоблены на розных сцэнічных пляцоўках краіны, а таксама, як спадзяюцца арганізатары, за межамі Беларусі.

Лаўрэаты конкурсу падзяліліся ўражаннямі ад перамогі.

**Мікалай Рудкоўскі:**

— Калі я быў студэнтам філалагічнага факультэта БДУ і рыхтаваўся да заліку па беларускай літаратуры, нават не думаў, што некалі напішу п'есу пра першадрукара. Тады я нават не ведаў, што буду пісаць п'есы *(Смяецца.)*. Я вельмі ўдзячны арганізатарам конкурсу за тое, што яны натхнілі многіх драматургаў на новыя творы для тэатра.

**Цімафей Ільеўскі:**

— Я працую рэжысёрам у брэсцкім тэатры і пасля кожнай пастаноўкі чую ад журналістаў пытанне, што хацеў сказаць у гэтым спектаклі. Спадзяюся, гэтым разам мне нічога не трэба тлумачыць. Усе вобразы і яскравыя моманты твора будуць выдатна інтэрпрэтаваныя рэжысёрамі.

**Сяргей Кавалёў:**

— Я знайшоў у сваім нататніку запіс, якому ўжо больш за 10 гадоў. Тады задумаў напісаць п'есу «Юдзіф». Адразу ж узяўся за справу, а потым адклаў тэкст, была гатовая толькі 1 дзея. Конкурс прымусіў мяне прыспешыць працу. Думаю, ідэя конкурсу п'ес, прысвечанага знакавым асобам беларускай гісторыі, — проста выдатная. Так рэпертуары нашых тэатраў папоўняцца новымі пастаноўкамі пра вядомых землякоў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з юбілеем народную артыстку БССР Любоў Каспорскую. «Вы набылі вядомасць як пранiклівая камерная спявачка, а створаныя Вамі сцэнічныя вобразы пакінулі яркі след у сэрцах слухачоў, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. — Больш як 30 гадоў Вы з'яўляецеся адным з вядучых педагогаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, шчодра дзеліцеся з маладым пакаленнем сакрэтамі майстэрства, ведамі і досведам. Многія з Вашых выхаванцаў сталі выдатнымі спевакамі і артыстамі».

✔ Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў медалём Францыска Скарыны кіраўнікоў рэгіянальных грамадскіх арганізацый беларусаў у Расіі. За значны асабісты ўнёсак у папулярызацыю беларускага нацыянальнага мастацтва, умацаванне культурных і навуковых сувязей паміж Беларуссю і Расіяй медалём уганараваны старшыня рэгіянальнай грамадскай арганізацыі «Нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў Томскай вобласці» Любоў Адаскевіч і старшыня рэгіянальнай грамадскай арганізацыі «Нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Масквы"» Аксана Солапава.

✔ Беларускіх пісьменнікаў узнагародзілі на VII Міжнародным славянскім літаратурным форуме «Залаты Віцязь». Статуэтку «Залатога Віцязя» атрымалі два рамана Мікалая Гаўрылава «Господь, мы поднимаемся. Хроника детского крестового похода» і «И отрёт Бог всякую слезу». Статуэтку «Сярэбранага Віцязя» прывёз у Беларусь Міхаіл Шэлехаў за кнігу вершаў пра падзеі ва Украіне «Танец оборотней». У намінацыі «Літаратура для дзяцей і юнацтва» Таццяна Дашкевіч атрымала бронзавую статуэтку за кнігі цёплай і шчырай прозы — «Денежный мешок» і «Лезгинка Рубинштейна». Залатымі дыпломамі форуму ўганараваны паэтэса Валянціна Паліканіна і сцэнарыст Алена Страхава. Форум, які прайшоў у Стаўрапалі, у сёмы раз сабраў літаратараў, якія кіруюцца ў сваёй творчасці дэвізам «За маральныя ідэалы, за ўзвышэнне душы чалавека».

✔ Дні культуры Таджыкістана пройдуць у Беларусі 10 — 14 лістапада. У праграме — канцэрт з удзелам лепшых майстроў мастацтваў гэтай усходняй краіны, выстаўка карцін, дэманстрацыя мастацкіх фільмаў кінастудыі «Таджыкфільм», паказ калекцыі твораў майстроў народных мастацтваў. Яшчэ адзін цікавы момант — прэзентацыя кнігі п'ес вядомага беларускага драматурга Аляксея Дударава на таджыкскай мове.

✔ Алея славы з'явілася каля Беларускай дзяржаўнай філармоніі па бульвары Мулявіна ў Мінску. «Гэта знакавая падзея, сімвалічная і своечасовая менавіта ў Год культуры», — адзначыў намеснік міністра культуры Беларусі Аляксандр Яцко. Алея блакітных ялін высаджана з удзелам народных артыстаў Беларусі, а таксама кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў Савецкага раёна Мінска. Генеральны дырэктар Белдзяржфілармоніі Аляксандр Гарбар выказаў надзею, што Алея славы стане пачаткам вялікага ландшафтнага комплексу, у які ўвойдуць адкрытая канцэртная пляцоўка, фантан і Алея зорак.

# Беларуская кніга: сербскія гарызонты

Увесь гэты дзень працуе 61-я Бялградская кніжная выстаўка-кірмаш. Работу беларускага стэнда адкрыла міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч. Высокім сербскім гасцям былі прадстаўлены многія навінкі, якія расказалі пра плён работы беларускіх кнігавыдаўцоў у апошні час. Сярод іншых выданняў прэзентаваны і зборнік выказванняў пра Сербію і Югаславію. З кнігай высокіх гасцей знаёміў яе ўкладальнік — прафесар БДУ Іван Чарота. Ягоя як паўнадзейнага члена Сербскай Акадэміі навук і славутага беларускага сербіста добра ведаюць у Бялградзе.

Пра зборнік «Францыск Скарына на мовах народаў свету» распавёў дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч. Дарэчы, у кнізе прадстаўлены і тры пераклады славутага верша беларускага першадрукара на сербскую.

Гасцямі беларускага стэнда былі паэт і празаік Невена Вітошавіч і старшыня Саюза пісьменнікаў Сербіі Радамір Андрыч. Якраз у мінулым нумары «ЛіМ» надрукаваў іх вершы ў перакладзе на беларускую Івана Чароты. На стэндзе быў прэзентаваны і сербскі нумар «ЛіМа». Шмат добрых слоў пра стасункі беларускага выдання з сербскімі пісьменнікамі выказалі міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, галоўны рэдактар «Нёмана» Аляксей Чарота і інш.

**Кірыл ЛАДУЦЬКА,**
*г. Бялград, Сербія*

# СаДРУЖныя ініцыятывы

## Інтэлігенцыя краін СНД аддала даніну памяці Чынгізу Айтматаву

З ускладання кветак да помніка народнага пісьменніка, Героя Кыргызскай Рэспублікі пачаўся Форум творчай і навуковай інтэлігенцыі дзяржаў — удзельніц СНД у Бішкеку. Форум праводзіцца пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД (сёлета ён прымеркаваны да 25-годдзя Садружнасці).

Але яшчэ адной нагодай сустрэчы стала правядзенне Года гісторыі і культуры пры Урадзе Кыргызскай Рэспублікі (які сёлета старшынствуе ў СНД). Тэма сустрэчы — перспектывы супрацоўніцтва. Нездарма сёлета падчас адной з дыскусій ішла гаворка пра развіццё дыялогу культур на прасторы СНД. Гэтаму можа паспрыяць развіццё турызму (яшчэ адна актуальная тэма), адукацыі (у кантэксце абвешчанага ў СНД Года адукацыі). Але ўжо ў наступным годзе на прасторы Садружнасці рыхтуюцца да Года сям'і (асабліва наша краіна, якая пераймае эстафету старшынства ў СНД налета). Тым не менш культурнай сталіцай краін Садружнасці ў 2017-м будзе азербайджанскі горад Гянджа.

Сёлета гасцей пазнаёмілі з сумеснымі культурнымі праектамі, напрыклад, у Бішкеку ў гэтыя дні праходзіць выстаўка маладых мастакоў краін Садружнасці, дэманстравалася тэатральная пастаноўка «Дэман» паводле Лермантава і іншыя, у тым ліку гуманітарныя акцыі. У Форуме бяруць удзел дзеячы навукі, адукацыі, культуры, прадстаўнікі моладзевых і грамадскіх арганізацый Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Таджыкістана, Туркменістана, Узбекістана, Расіі.

**Ларыса ЦІМОШЫК,**
*г. Бішкек, Кыргызстан*

# «Іду на 100!»

**Іван Андрэевіч Муравейка, аптыміст і жыццялюб па натуры, ставіцца да свайго ўзросту з пэўнай доляй гумару. Калі ў яго запыталіся: «Чаго пажадаеце землякам?» — той не замарудзіў адказаць: «Пражыць больш за мяне. Мой узрост — не найвышэйшая кропка».**


*Фота Яўгена Пясецкага.*

Яму і самому верыцца і не верыцца, што ўзышоў ажно на 95-ю прыступку жыццёвай лесвіцы. Прызнаецца: даў бы сам сабе не больш як 70. Ды вось пашпарт не дазваляе абмінуць гады, красамоўна сведчыць і пра дзень нараджэння — 21 кастрычніка 1921 года, нагадвае і пра месца, дзе тое адбылося, — вёска Таль Любанскага раёна.

Пра такіх людзей кажуць: яны ведаюць жыццё не па падручніках. Уладкаваўшыся на лаве побач з Іванам Андрэевічам, паслухаўшы з яго вуснаў аповед пра падзеі супярэчлівага мінулага стагоддзя, удзельнічаць у якіх яму давялося асабіста, і сапраўды можна было б скласці не адзін том шчымлівых успамінаў. Ды, на шчасце, Бог адарыў яго самога талентам пісьменніка. Наогул, Іван Андрэевіч верыць у боскую міласць да сябе. Ён быў адзіным сынам у маці. І як ні шкуматаў яго нялітасцівы лёс ад першага да апошняга дня вайны — кінуў у самае пекла пад Сталінградам, выпрабоўваў варожай куляй, — а дайшоў салдат-пехацінец пераможцам да апошняга рубяжа. На рэйхстагу параненай рукою на ўспамін усяму свету ён пакінуў: «Іван з Беларусі». Выводзіў словы з непахіснаю верай, каб ведалі: дух салдата, што за Радзіму стаіць, ніякая сіла не зломіць. Пра гэта яму карцела распавесці ўжо тады, калі ішлі баі, жорсткія, крывавыя. Яго сумленне не магло здрадзіць памяці сяброў, якіх вайна навечна пакінула маладымі...

Яго паэтычныя радкі, пакладзеныя на музыку гэткімі ж армейскімі аматарамі, уздымалі настрой байцоў, заклікалі бясстрашна ісці ў атаку. Так, напрыклад, сталі паходнымі яго песня 47-й гвардзейскай дывізіі і песня «Баявая палкавая».

Дэмабілізаваўся старшы лейтэнант Іван Муравейка ў красавіку 1947 года, будучы інвалідам 2-й групы. Вярнуўся дахаты — на гераічную партызанскую зямлю Любаншчыны. Мірнае адраджэнне, нягледзячы на ўсе цяжкасці, адкрывала іншыя далягляды. Тое, што брала верх у асобе Івана Муравейкі — прага да творчасці, — станавілася явай яго жыцця. І сёння ён мае шыкоўную бібліятэку ўласных твораў. Сваякі Івана Андрэевіча ўсміхаюцца: «Калі прыходзілі пагасцяваць, ён пераважна сядзеў за сталом — рабочым». Яму хацелася і выказаць у творах свой боль пра перажытае на вайне, і несці дзецям радасць мастацкага слова. Цяпер агульнавядома, які плён меў той клопат. Пісьменніцкае імя Івана Муравейкі цвёрда мацуе фундамент нацыянальнай літаратуры.

У мінулую пятніцу павіншаваць Івана Муравейку, ганаровага грамадзяніна Любанскага раёна, у мясцовай школе мастацтваў сабралася вялікая грамада, і калі падняліся тры першыя рады гледачоў, зала ўзарвалася апладысментамі. Бо гэта быў прыгожы род таго чалавека, якога паважліва запрасілі на сцэну і які сваім прыкладам паказаў, як трэба па-сапраўднаму ісці па жыцці. Дачка пісьменніка Святлана Іванаўна патлумачыла: «У двух прадстаўнікоў вялікай сям'і Муравейкаў не атрымалася прыбыць на ўрачыстасць, а 27(!) — тут, побач з юбілярам». Праўда, сам Іван Андрэевіч мусіў настойліва папраўляць і вядучых, і гасцей: «95 — гэта дата, іду на 100. Вось тады і адзначым юбілей!»

**Алена СТЭЛЬМАХ**

## У пісьменніцкім асяродку

# Тытул для юбіляра

Сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, доктар гістарычных навук, прафесар, палкоўнік міліцыі ў адстаўцы Мікалай Ільінскі адзначыў 85-гадовы юбілей. Чатыры дзесяцігоддзі таму Мікалай Іванавіч прыйшоў на працу ў Мінскую вышэйшую школу МУС СССР, адолеў шлях да навуковага звання прафесара. У творчай скарбонцы аўтара — кнігі «Апошняя ладдзя вікінгаў», «Чужыя сярод сваіх» (паводле якой на кінастудыі «Беларусьфільм» ідзе праца над карцінай да 100-годдзя беларускай міліцыі), «Рэтра», «З келіхам пунсовага цюльпана» ды іншыя. Да ўрачыстай падзеі прымеркавалі творчы вечар пісьменніка ў Акадэміі МУС.

— Сёння Мікалай Іванавіч асвойвае новую для сябе прафесію — кінадакументаліста, — адзначыў начальнік Акадэміі МУС Уладзімір Бачыла. — Яго кнігі запатрабаваныя яшчэ і таму, што распавядаюць пра нялёгкія перыяды жыцця нашай краіны, нашага народа.

Ад імя міністра ўнутраных спраў творцу павіншаваў начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, палкоўнік міліцыі Эдуард Ярашук.

Вёў вечарыну сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгій Марчук, які адзначыў важкі ўнёсак Мікалая Ільінскага-педагога ў выхаванне маладога пакалення.

— Выхадзец з Расіі, вы даўно і трывала прыжыліся на беларускай дабратворнай глебе айчыннага слова, — звярнуўся да юбіляра першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў. Ён уручыў Мікалаю Ільінскаму дыплом СПБ за шматгадовую плённую літаратурную дзейнасць і ўдзел у грамадскім жыцці, а таксама абвясціў аб прысваенні творцу звання ганаровага члена СПБ. Далучыліся да віншаванняў пісьменнікі Іван Саверчанка ды Дзмітрый Пятровіч.

Падчас чарговага пасяджэння паэтычнага клуба «Парнас» Мінскага гарадскога аддзялення СПБ пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 5 г. Мінска «Маёй душы акрыленая ліра...» беларускі паэт Змітрок Марозаў сустрэўся з курсантамі ваеннай кафедры Мінскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, навучэнцамі архітэктурна-будаўнічага каледжа, аматарамі лірыкі. Творца расказваў пра сябе і чытаў свае вершы з паэтычных зборнікаў «Я з вёскі, я — свойскі, язбоўскі», «Мне богам дадзена Радзіма» ды іншых. У кніжніцы можна было пабачыць і выстаўку кніг і публікацый з часопісаў пра творчасць паэта.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Кіно з усяго свету

XIII Мінскі МКФ «Лістапад» набліжаецца да сустрэчы з натхнёным гледачом: абвешчана праграма фестывалю, які адбудзецца з 4 па 11 лістапада. Прагляды пройдуць у сталічных кінатэатрах «Масква», «Мір», «Перамога», «Піянер», «Цэнтральны» і Музеі гісторыі беларускага кіно. У фестывалі возьмуць удзел 159 стужак з 45 краін. На цырымоніі адкрыцця пакажуць фільм «Пецярбург. Толькі па любові».

Паводле прагрfavorite намнага дырэктара фестывалю Ігара Сукманава, сёлета для «Лістапада» галоўным будзе добрае, разумнае кіно, а не гламурныя чырвоныя дарожкі. У асноўным конкурсе ігравога кіно пакажуць стужкі, правераныя многімі фестывалямі. Гледача чакаюць: «Анішаара» — гісторыя пра 15-гадовую дзяўчынку і яе першую закаханасць, «Атэстат сталасці» Крысціяна Мунджыў — стужка пра мары і іх магчымасці ўвасабіцца ў жыццё (фільм атрымаў у Канах прыз «за лепшую рэжысуру»). Здзівяць і карціны з блізкага замежжа. Кыргызская стужка «Наказ бацькі», якая атрымала «Залаты зеніт» на фестывалі ў Манрэалі, распавядзе пра здабыццё новай радзімы і «знаёмства» з бацькавай спадчынай. Як змагацца за ўласную годнасць і вярнуць сямейную каштоўнасць, ведае герой стужкі «Слава», якая атрымала прыз за лепшы фільм на фестывалі ў Хэмптане. Асаблівым падарункам для кінааматараў стануць «Сьераневада» (трыўмфатар Канскага фестывалю, які пазнаёміць гледача з гісторыяй аднаго хаосу) і кітайскі фільм — лаўрэат прэміі ФІПРЭССІ ў Таронта «Я не мадам Бавары» — новы погляд на вядомую гісторыю.

Асноўны конкурс дакументальнага кіно не пакіне абыякавым нават самага спакушанага гледача. Тут будзе кіно пра блізкіх нам людзей і іх праблемы (як у стужцы «Украінскія шэрыфы»). Пра тое, як маладосць шукае свабоды і вечнасці ды кідае выклік сучаснаму грамадству (у фільме «Калі зямля падаецца лёгкай», які атрымаў прыз за лепшы дэбют у Амстэрдаме). Як незвычайнае спрабуе стаць натуральным для нашага разумення (распавядзе чэшская стужка «Цыганскі футбольны клуб»). Засталося месца ў асноўным конкурсе дакументальнага кіно і для наших суайчыннікаў — Сяргей Лазніца стужкай «Аўстэрліц» нагадае пра балючае мінулае, беларускарасійскі фільм «Саламанка» — пра пераемнасць жыццёвых колаў і пошукі адказаў на асабістыя пытанні.

Конкурс дэбютаў «Маладосць на маршы» сёлета абяцае творчую свабоду, смелыя эксперыменты і новыя інтэрпрэтацыі. Напрыклад, драма «Дэманы» Філіпа Лезажа абяцае не толькі прасачыць гісторыю канадскага хлопчыка, але і даведацца, што могуць зрабіць з яго свядомасцю ўяўныя дэманы. Расійскі рэжысёр Іван Твярдоўскі прапануе ўрок па «Заалогіі»: галоўная гераіня стужкі навучыць гледача шукаць сябе і разам з ім пройдзе скрозь сорам і надзею. Хаакін дэль Паса ў фільме «Машынерыя Панамерыкана» будзе таксама шукаць выйсце: ці змогуць супрацоўнікі беднага прадпрыемства схаваць смерць свайго начальніка? Тэма праблем моладзі гучыць на сёлетнім фестывалі лейтматывам: рэжысёры высвятляюць, што рухае тымі, хто вось-вось скажа юнацтву «да сустрэчы», як маладыя змагаюцца з адчужэннем (пра гэта распавядзе стужка Хуана Себасцьяна Месы «Ніхто»).

Нацыянальны конкурс «Лістапада» абяцае стаць энцыклапедыяй айчыннага жыцця ад маладых беларускіх рэжысёраў, а анімацыя і дакументалістыка наблізяць гледача да разумення гісторыі нашай краіны, а можа, і да спасціжэння ісцін (падрабязней пра беларускае кіно — у наступных нумарах «ЛіМа»).

Асаблівае месца — пазаконкурсным паказам. Айчыннае кіно тут прадставяць стужкі маладых аўтараў, якія ўжо паспелі заявіць пра сябе не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Нам пакажуць дакументальную стужку Мікіты Лаўрэцкага, «Беларускія Песні: Традыцыя адлегласці» Арцёма Лобача, пераможцу канадскага фестывалю «Песні старой Еўропы» Вольгі Дземка ды іншыя.

У пазаконкурсных паказах беларускі глядач пазнаёміцца з шэдэўрамі еўрапейскага кіно: арганізатары прывязуць у сталічныя кінатэатры лаўрэатаў Канскага, Венецыянскага і Берлінскага фестываляў.

Для апантаных дакументалістыкай — вельмі прыемная навіна: можна паглядзець праграму «Постдок», якая зрабіла выклік традыцыйнаму дакументальнаму кіно, і пазнаёміцца з 4 дакументальнымі стужкамі пра музыку ў праграме *«Музыка DOC»*.

Індустрыяльная платформа кінафестывалю сёлета будзе засяроджана на праблемах беларускай кінаіндустрыі — упершыню пройдзе адукацыйны пітчынг, «сцэнарнае сватаўство», сустрэчы з замежнымі экспертамі, а таксама *VIR:Cinema* — прагляды фільмаў з дапамогай тэхналогіі *VR*.

На цырымоніі закрыцця «Лістападу» будзе магчымасць убачыць фільм «Рэшткавыя вывы» — работу выбітнага польскага рэжысёра Анджэя Вайды пра польскага і беларускага мастака-авангардыста Уладзіслава Стржэмінскага.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Вяртанне на радзіму

Бенедыкт Тышкевіч — першы беларускі фотамастак, у скарбонцы якога можна пабачыць здымкі амаль з усіх краін свету, што прэзентуюць культуру і традыцыі розных народаў. А галоўнае — культуру беларусаў канца XVII — пачатку XIX стагоддзя. У мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага прайшла ўнікальная выстаўка «Бенедыкт Тышкевіч. Вяртанне», у экспазіцыі якой было прадстаўлена дваццаць шэсць аўтарскіх работ. Выстаўка выклікала вялікую цікавасць у жыхароў Мінска.

Неадноўчы на жыццёвым шляху Бенедыкта Тышкевіча былі сумныя падзеі, але мастака выратоўвала беларуская зямля. Так, напрыклад, калі жонка творцы, францужанка Элізабэт, памерла ад цяжкай хваробы, Бенедыкт Тышкевіч вярнуўся з Парыжа на радзіму — у паляўнічы маёнтак Вялае пад Валожынам. У маёнтку майстар абсталяваў фоталабараторыю і студыю-павільён. І літаральна не выпускаў з рук фотакамеру: сяляне, пейзажы, пастановачныя замалёўкі і сцэны з жыцця паляўнічых і памешчыкаў.

Экспазіцыя Бенедыкта Тышкевіча ў галерэі Міхаіла Савіцкага — добрая нагода пазнаёміцца з атмасферай і ладам жыцця, які калісьці панаваў на прасторах беларускай зямлі. На большасці прадстаўленых работ — вясковыя дзяўчаты, некаторыя з іх босыя, іншыя абутыя ў лапці альбо маленькія чаравікі. Прыгажуні апрануты ў шчыльныя камізэлькі і пышныя спадніцы. Усмешлівыя, яны пра нешта размаўляюць, займаюцца кожная сваёй справай (Бенедыкт Тышкевіч часта працаваў з пастановачнай фатаграфіяй). Краявіды на здымках аўтара сонечныя, летнія.

Здымкі аўтара сталі вядомыя ў свеце і ў Беларусі толькі напрыканцы XIX стагоддзя. Пасля смерці фотамастака, у 1935 годзе, яны прапалі. Толькі ў 1993 годзе Музей фатаграфіі імя



Жозэфа Ньепса ў Францыі набыў альбом фотаздымкаў Бенедыкта Тышкевіча ў аднаго з парыжскіх антыквараў. На жаль, у Еўропе ніхто не ведаў, што гэта за аўтар. Таму супрацоўнікі музея пачалі шукаць карані таленавітага фатографа і знайшлі — на Беларусі. Французы былі ўражаныя, што менавіта тут нарадзіўся чалавек, які ўпершыню ўзняў тэму побыту простых людзей і прысвяціў гэтай справе частку жыцця.

Выстаўка «Вяртанне. Бенедыкт Тышкевіч» — гэта сапраўды вяртанне, толькі ўжо творчай спадчыны майстра, на любімую зямлю.

**Вікторыя АСКЕРА**



## Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**30 кастрычніка** — *на канцэрт духоўнай музыкі, песні і паэзіі, які пройдзе ў межах Дзён праваслаўнай культуры ў Палацы культуры прафсаюзаў. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**31 кастрычніка** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам паэтэс Таццяны Жылінскай і Алены Шчарбаковай у публічную бібліятэку № 7 імя Якуба Коласа (вул. Пляханава, 97/4). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**1 лістапада** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Іванам Юркіным у публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 10.30.*

**1 лістапада** — *на свята дзіцячай кнігі ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак у 10.30.*

**1 лістапада** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Янай Явіч у дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**1 лістапада** — *на вечар сучаснай беларускай паэзіі з удзелам паэтаў. Імпрэза адбудзецца ў актавай зале БДУІР (вул. Петруся Броўкі, 4). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**2 лістапада** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 11 (Ташкенцкі праезд, 3) з удзелам пісьменніка Міхася Пазнякова. Пачатак у 10.30.*

**2 лістапада** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 13 (вул. Народная, 43а) з удзелам пісьменніцы Ніны Галіноўскай. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**2 лістапада** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам маладога літаратара Дзмітрыя Юртаева ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 10.30.*

**2 лістапада** — *на свята дзіцячай кнігі ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16) з удзелам пісьменніка Івана Юркіна. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**2 лістапада** — *на юбілейны творчы вечар празаіка і перакладчыка Валерыя Чудава ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**3 лістапада** — *на прэзентацыю першай кнігі вершаў «Тернистый путь» маладой паэтэсы Кацярыны Стройлавай у Інстытут тэалогіі Белдзяржуніверсітэта (пр. Незалежнасці, 24, аўд. 307). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**3 лістапада** — *у Дом Масквы (вул. Камуністычная, 86) на вечар памяці народнага паэта Дагестана Расула Гамзатава. Пачатак у 18.30.*

**4 лістапада** — *у Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5, вялікая зала) на творчы вечар паэтэсы з Санкт-Пецярбурга Кацярыны Палянскай. Пачатак а 19-й гадзіне.*

## Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**31 кастрычніка** — *на круглы стол Мінскага абласнога аддзялення СПБ і часопіса «Полымя» «Братэрства: сучасная беларуская літаратура ў рэгіёнах Расіі», які адбудзецца ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда» (г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, Дом прэсы, 5 паверх). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**1 лістапада** — *на прэс-прэзентацыю краязнаўчых кніг І. П. Ярашэвіча пра Чэрвеньшчыну, Смілавічы і іх ураджэнцаў. Мерапрыемства пройдзе ў канферэнц-зале Выдавецкага дома «Звязда». Пачатак аб 11-й гадзіне.*

## Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**1 лістапада** — *на творчую сустрэчу з Галінай і Сяргеем Трафімавымі «З кнігай адкрываю свет» у Цэнтральнай раённай бібліятэцы г. Барысава (вул. Чапаева, 3). Пачатак а 12-й гадзіне.*

## Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**3 лістапада** — *на літаратурную сустрэчу з паэтам Віктарам Кудлачовым і празаікам Ірынай Фамянковай «Дзіця — кніга — душа» ў бібліятэку Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта (г. Гродна, вул. Горкага, 80). Пачатак у 9.40.*

## Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**1 лістапада** — *на прэзентацыю альманаха прозы і паэзіі «Прыдняпроўе-2016» з творамі членаў Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце харчавання (пр-т Шміта, 3). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**4 лістапада** — *на прэзентацыю кнігі вершаў Міхаіла Уласенкі «Вершаплёт» у Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі (г. Горкі, вул. Мічурына, 5). Пачатак а 14-й гадзіне.*

# Жыць верай

## Недрукаваныя творы Зінаіды Бандарынай

**У апошні час з'явілася шмат цікавых артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры 1920 — 1930-х гадоў, але, тым не менш, многія матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, яшчэ чакаюць моманту, калі будуць уведзены ў больш шырокі ўжытак. Каштоўнасць уяўляюць найперш тыя творы, якія не былі апублікаваны, а многія засталіся ў рукапісах.**



Так, у фондзе Зінаіды Бандарынай захоўваецца арыгінал рукапісу на рускай мове (90 старонак), пазначанага як «Аўтабіяграфічная аповесць» (БДАМЛМ, ф. 75, воп. 1, адз. зах. 10а; далей спасылкі на гэтую архіўную крыніцу), дзе распавядаецца пра жыццёвы шлях паэтэсы да пачатку вайны, а дакладней, да ўступлення ў армію. Першае пытанне, якое адразу ж узнікае: наколькі насамрэч аповесць з'яўляецца аўтабіяграфічнай? Напрыканцы рукапісу аўтарка тлумачыць: «*Не ручаюсь, что моя автобиографическая повесть покажется моим родным и близким до конца безупречно правдивой, в основном, я рассказываю в ней о том, что видела своими глазами. А ведь и глаза и сердце у всех разные и каждый одно и то же видит по-своему и по-своему лишь сможет о нём рассказать*». На справе, у якой захоўваецца рукапіс, пазначана «без даты», таму невядома дакладна, калі яна была створана, аднак хутчэй за ўсё пасля вайны.

Аповесць напісана ад першай асобы і пачынаецца з абяцання расказаць, як гераіня патрапіла ў армію. Адзначаючы, што большасць аднапалчан «выйшла з народа», гераіня падкрэслівае: «*Моя довоенная биография была намного сложнее, в ней много спорного. Спор идёт даже о моем возрасте…*» Згодна з аповесцю, сапраўдны год нараджэння гераіні — 1911-ы, а не 1909-ы, як пазначана ў некаторых даведніках.

Гераіня распавядае таксама пра сем'і бацькоў: «*Папина мать росла на Брестчине в имении своих родителей, она была полячка и не любила русских, особенно офицеров… Во время польского восстания 1863 года вся семья папиной матери, и в том числе она сама, примкнули к повстанцам. Их разоружила и преследовала царская армия...*» Пасля паўстання маёмасць сям'і была канфіскавана. Другая бабуля гераіні паходзіла з Паволжа, з Саратаўскай вобласці.

Адзін з самых цікавых момантаў аповесці — знаёмства гераіні з Уладзіславай Францаўнай і Янкам Купалам, з якімі да гэтага ўжо была знаёмая маці гераіні. Як вядома, Купала працаваў у Наркаме асветы, а маці Бандарынай была выкладчыцай. Магчыма, гэты факт неяким чынам і паспрыяў іх знаёмству: «*Никогда не забуду своей первой встречи с любимым всю жизнь поэтом. Был закат. Окна в его комнате раскрыты. Из красного угла бросился мне в глаза золотой сноп ржаных колосьев. Сам Купала худощавый, с бледным продолговатым лицом и очень пытливыми грустными глазами сидел за столом у окна, в руке он держал стакан недопитого чая и, видимо, позабыл о нем. Сидел неподвижно, как изваяние, смотрел через окно на закат*». І з жалем канстатуе: «*А говорить нам с ним в то время все-таки было не о чем, правда мне было чрезвычайно приятно, что он ласково гладит по голове, спрашивает: — А ты любіш чытаць?*». І падарыў кніжку «Матчын дар» Алеся Гаруна са словамі: «*Чытай, а што хочаш і на памяць вывучы. Як прыйдзеш яшчэ раз да нас, раскажаш, — с этими словами я получила в подарок от Купалы свою первую белорусскую книжку "Матчын дар"*».

Са старонак аповесці паўстае жывое, няўрымслівае дзяўчо, якое ўсім цікавіцца. Сустракаецца і азначэнне «дзікарка», даволі характэрнае для перыяду 1920-х гадоў (яго можна знайсці і ў вершах самой Бандарынай, і ў творах іншых паэтаў). На жаль, пра «Маладняк» у аповесці не сказана ні слова. Увогуле, увесь перыяд пасля педтэхнікума займае ў рукапісе не больш за пяць старонак, аднак і тут ёсць цікавыя моманты, якія могуць праліць святло на некаторыя абставіны жыцця Бандарынай (калі дапусціць, што так і адбывалася насамрэч).

Асноўнае захапленне гераіні аповесці — не вершы, а жывапіс. Як вядома, З. Бандарына тры гады была аспіранткай Дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе (скончыла ў 1937 г.). Гэты факт адлюстраваны і ў творы: «*…произошло событие, надолго поразившее мою душу и на много лет выбившее меня из творческой колеи. Лучшие мои товарищи в Белоруссии были арестованы и высланы как враги народа. Я не верила, что они могут быть врагами, и не скрывала своего мнения. На этом отыгрались карьеристы, мне на бюро комсомола было предъявлено обвинение — связь с врагами, скрытие социального происхождения*». Распавядаецца і пра выключэнне з камсамола. Як вынік, «*…вырванная из коллектива, одинокая, стала жить своей верой. Жизнь наносила мне все новые и новые удары, посланные и принятые для выставки мои картины неизвестно кем были утеряны, бесследно исчезли. Имя мое, как молодой талантливой художницы, заглохло*».

Галоўная гераіня аповесці цяжка перажывала тое, што з ёй адбывалася: «*Домой о случившемся не писала, на каникулы не ездила и даже не знала, что стряслась еще беда — арестован отец*». Завяршаецца аповесць, як ужо адзначалася, пачаткам вайны і ўступленнем галоўнай гераіні ў армію.

Думаецца, што гэты аўтограф з'яўляецца чарнавым варыянтам (магчыма, першым), і ў далейшым ён мог бы быць дапоўнены, пра гэта сведчаць шматлікія праўкі.

Падзеі, якія асвятляюцца ў аповесці, пэўным чынам тлумачаць перыяд доўгага творчага маўчання. Як вядома, Зінаіда Бандарына — аўтар дзвюх апублікаваных кніг паэзіі: першая — гэта сумесны зборнік з Я. Пфляўмбаўм і Н. Вішнеўскай «Вершы» (1926), і другая — яе самастойны паэтычны зборнік «Веснацвет», які выйшаў у 1931 годзе і ўключаў вершы, напісаныя ў 1926 — 1929 гг.

Як і гераіня аповесці, Зінаіда Бандарына ў сваёй творчасці імкнулася не толькі адлюстраваць пульс эпохі, але, і ці не ў першую чаргу, пачуцці і думкі жанчыны свайго часу. У прынцыпе, імкненне да «палкай ідэёвасці» выявілася хутчэй у зборніку З. Бандарынай «Веснацвет», які тым не менш атрымаў сваю долю крытыкі. Аднак пасля выхаду «Веснацвету» наступае складаны перыяд у жыцці не толькі самой паэтэсы, але і ўсёй краіны ў цэлым. У біябібліяграфічным даведніку «Беларускія пісьменнікі» ў біяграфіі З. Бандарынай гады з 1934 па 1945 не адзначаныя ніводнай паэтычнай публікацыя, хоць М. Хведаровіч у сваім нарысе «Памятныя сустрэчы» згадваў, што «*патрыятычныя вершы Бандарынай у франтавым друку заклікалі байцоў стаяць за родную Маскву*». Магчымым кірункам пошукаў можа стаць той самы «франтавы друк». Тым не менш у рукапісах, што захоўваюцца ў архіве, 1930-я гады прапушчаныя цалкам. Ёсць рукапісы вершаў, якія датуюцца 1941 і 1942 гадамі, а таксама некалькі вершаў без даты. Магчыма, гэта звязана з тым, што З. Бандарына ў гэты час жыла не ў Беларусі, і паперы маглі застацца, напрыклад, у Расіі, а магчыма, варта пашукаць у іншых установах, куды перадаваліся матэрыялы З. Бандарынай.

Сярод матэрыялаў, перададзеных у БДАМЛМ пасля смерці паэтэсы яе маці Таісіяй Аляксееўнай Бандарынай, ёсць машынапісны зборнік «Выбраныя вершы» (хутчэй за ўсё, падрыхтаваны самой паэтэсай), які складаецца са 129 вершаў (187 старонак). Амаль палова з яго — творы, напісаныя пасля зборніка «Веснацвет» (гэта значыць, у 1930 — 1950-я гг.), і папярэдні аналіз дазваляе з вялікай доляй верагоднасці сцвярджаць, што большасць з іх нідзе не друкавалася.

На рукапісе ёсць адзнакі, якія дазваляюць меркаваць, што, хутчэй за ўсё, зборнік рыхтаваўся да друку і павінен быў выйсці ў 1961 г. Як вядома, Зінаіда Бандарына памерла 6 красавіка 1959 года. Хто ў такім разе рыхтаваў зборнік і чаму ён не выйшаў? І ў якім выдавецтве ён павінен быў выйсці?

Творы ў зборніку размешчаны ў храналагічным парадку, але кніга адкрываецца вершам «На купалаўскіх сцежках», напісаным значна пазней, ужо пасля вайны. Кніга падзяляецца на невялікія часткі, кожная з якіх мае эпіграф. Большасць эпіграфаў — з У. Маякоўскага. У новую кнігу планавалася ўключыць як вершы, што ўваходзілі ў папярэднія зборнікі (гэта значыць, напісаныя ў 1920 — 1930-я гады), так і новыя творы, напісаныя ў ваенны і пасляваенны час (большасць у 1950-я гады), якія складаюць прыкладна палову кнігі.

У 1957 г. Зінаіда Бандарына ўступіла ў Саюз пісьменнікаў СССР, што, магчыма, паспрыяла творчаму ўздыму паэтэсы, бо ў зборніку шмат вершаў, датаваных 1957 — 1958 гадамі.

Шмат вершаў у зборніку прысвечана вайне, кранальна гучаць вершы, адрасаваныя сыну. Ёсць у кнізе і вершы пра каханне, у многіх гучыць матыў асэнсавання пройдзенага шляху і ўласнага лёсу, а ў некалькіх — выразныя матывы хуткага развітання з жыццём.

Вылучаецца верш «Не мірацца ў сэрцы…» (1958), які можна разглядаць як своеасаблівае прысвячэнне пакаленню маладнякоўцаў і ўзвышэнцаў:

*Блакітна-зялёны жытнёвы палетак*
*Мужнее без смецця, дужэе без кветак.*
*Труцілі і чысцілі зерне-насенне,*
*І чыстае жыта, як наша сумленне.*
*Чагось не хапае, шукаю… Дзіўлюся,*
*Хіба васількоў больш няма ў Беларусі?!*
*Паўсвета прайшла б я і ўсюды шукала*
*Любімую кветку…*

Сёння цяжка меркаваць, ці паўплывалі бы выхад кніжкі З. Бандарынай «Выбраныя вершы» на развіццё беларускай паэзіі ў цэлым, аднак, несумненна, яе публікацыя была б у нейкай ступені знакавай, тым больш што ў канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў жанчын у беларускай літаратуры ўсё яшчэ было вельмі мала.

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК,**
**кандыдат філалагічных навук**

# Запаліць сваю свечку



Адзін з самых папулярных празаікаў 1920-х гадоў Міхась Зарэцкі і пясняр чырвоных штандараў Міхась Чарот, лірычны паэт Юлій Таўбін і непамысна адданы камуністычнай уладзе крытык Якаў Бранштэйн… У гады сталінскіх рэпрэсій людзі рознага светапогляду і рознага лёсу раптам апынаціся побач у турмах, камерах і доўгіх сакрэтных спісах, каб амаль аднначасова пакінуць зямное жыццё. У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях мінскай турмы НКУС былі расстраляныя больш за сотню дзеячаў культуры і навукі, кіраўнікоў вытворчых прадпрыемстваў і прадстаўнікоў савецкага ўрада.

30 кастрычніка — Дзень памяці ахвяр палітычных рэпрэсій не толькі для беларусаў, але і для жыхароў іншых постсавецкіх краін. Чаму менавіта гэтым днём у былых савецкіх рэспубліках згадваюць ахвяр савецкай рэпрэсіўнай «машыны»?

30 кастрычніка 1974 года адбылася супольная галадоўка палітзняволеных мардоўскіх і пермскіх лагераў. Нават пасля знакамітага ХХ з'езда КПСС у турмах Савецкага Саюза ўтрымліваліся тысячы людзей, асуджаных за «асабліва небяспечныя дзяржаўныя злачынствы».

Сёння ў памяць палітзняволеных усталяваны помнікі ў сотнях гарадоў і мястэчкаў. Музеі, прысвечаныя ахвярам палітычных рэпрэсій, створаны ў Расіі, Літве, Латвіі, Казахстане, Узбекістане... Ёсць і ў Беларусі — пакуль віртуальны. На сайце змешчаны ўспаміны былых зняволеных, выявы асабістых рэчаў, плакаты савецкай эпохі, навуковыя публікацыі. Па віртуальным Музеі савецкіх рэпрэсій у Беларусі можна блукаць цэлы вечар, хаця праект, відавочна, знаходзіцца ў распрацоўцы.

Пра небяспеку літаратурнай творчасці ў часы сталінскіх рэпрэсій нагадвае адзін з «музейных экспанатаў» — артыкул гісторыка Ірыны Раманавай. Узрушаны верш сямікласніка Ягора Калбеева, прысвечаны нягодам беларускай вёскі, быў дасланы ў рэдакцыю газеты «Звязда» ў лютым 1937 года і каштаваў юнаку і яго сям'і доўгіх гадоў турэмнага зняволення.

Уплыў таталітарнага сталінскага рэжыму дагэтуль застаецца адчувальным у сферы беларускай гуманітарнай навукі. Так, не быў грунтоўна перагледжаны літаратурны канон, які склаўся ў сярэдзіне ХХ стагоддзя, а імёны таленавітых рэпрэсіраваных пісьменнікаў засталіся невядомымі для шырокага кола чытачоў.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Мікалай БАРЫСЕНКА:

# «ГІСТОРЫЯ НЕ МАЕ ЎМОЎНАГА ЛАДУ»

**Колькі мы ведаем, прыкладам, пра вайну? Возьмем Другую сусветную… Не ўсё, канечне, але вельмі шмат! Калі верыць Мікалаю Барысенку, то не вельмі. І нават не шмат… А верыць хочацца — пасля таго, як пагартаеш яго кнігі. Потым узнікае патрэба пачытаць. Уважліва. Сур'ёзна. Дакументалістыка — справа ўвогуле сур'ёзная. І ўрэшце ўзніклі пытанні. Такім чынам Мікалай Барысенка апынуўся госцем «ЛіМа» і маім суразмоўцам.**

**— Мікалай Сяргеевіч, да кнігі, якая сёлета прынесла вам Нацыянальную літаратурную прэмію і, адпаведна, стала нагодай для размовы, мы звернемся абавязкова. Пазней. Бо ў вашым варыянце цяжка не зачапіцца за жыццёвыя перыпетыі самой асобы пісьменніка. Гісторык і марак, выхавацель цяжкіх падлеткаў і аператыўнік МУС… Дык што цяпер пераважае ў асобе Мікалая Барысенкі, дакладней, пісьменніка Барысенкі? Кім адчуваеце сябе сёння?**

— Несумненна, пісьменнікам! Жыццёвы і прафесійны досвед, да якога я так доўга і настойліва імкнуўся, зрабіў сваю справу. Напэўна, гэта нармальна, калі тое, пра што пішаш, прайшло праз цябе. А пісаць трэба тады, калі… як кажуць гумарысты (не я — выбачайце!), перастаўляючы націск у гэтым слове, трываць ужо немагчыма!

Краязнаўства, з якога я пачаў свае вопыты пісьменніцкія, захапіла яшчэ падчас марскіх паходаў у юнацкія 1970-я гады. У далёкіх плаваннях штурманам на розных суднах марскога і рыбалавецкага флоту мне пашчасціла наведаць дзясяткі краін Еўропы, Азіі і Афрыкі. Рэйсы былі працяглымі, каля 6 месяцаў, а гэта давала добрыя магчымасці пад качку акіянскіх хваляў разважаць пра мітуслівасць ды кароткасць жыцця наогул і пра далёкі, за тысячы міляў, родны край у прыватнасці. Радзіма цягнула да сябе, з цеплынёй і пяшчотай узгадваліся дэталі дзяцінства… Рачулка, лес, іншыя патаемныя куточкі, дзе адчуваў сябе хоць на кароткі міг, але шчаслівым… Усе гэтыя думкі паступова занатоўваў у тоўсты сшытак, які пільна захоўваў пад падушкай. Асобныя невялікія нататкі адсылаў у марскія выданні Калінінграда і магілёўскую прэсу. З гэтага ўсё і пачалося.

Потым былі гістарычны факультэт БДУ, школа і зноў краязнаўства, якое канчаткова вызначыла мой пісьменніцкі шлях як гісторыка, краязнаўцы і пошукавіка.

Ведаеце, калі дзесяцігоддзі займаешся навукова-папулярнай дакументалістыкай (а справа гэта вельмі цікавая), то паступова праца з дакументамі і іх каментарый пачынаюць надакучваць, хочацца зрабіць нешта больш мастацкае, рамантычна-патрыятычнае, але каб яно абавязкова адпавядала гістарычным фактам. Здзейсніць гэта іншым часам было вельмі няпроста: кавалак няўручнага, няёмкага гістарычнага факта і… мэтазгоднасць часу! Але, на шчасце, гісторыя не мае ўмоўнага ладу: як адбылося, так і засталося ў стагоддзях. Мне падаецца, што ў нашай краіне сёння гэта разумеюць.

На абраным шляху пісьменніка чакае і яшчэ адна не менш важная праблема — сутыкненне асабістага мастацкага падыходу да аб'ектыўнага асвятлення гістарычнай падзеі ці з'явы. Сёння асабліва цяжка гэта даецца сцэнарыстам і рэжысёрам мастацкіх фільмаў, у тым ліку і пра вайну.

А вайна суправаджала мяне па жыцці з самага дзяцінства, многія з нас гулялі ў «вайнушку» сапраўднай зброяй. Бо родам я з вёскі Удоўск Чавускага раёна, адтуль, дзе ў 1941-м праходзілі жорсткія баі па выхадзе з акружэння абаронцаў Магілёва. І шмат чаго ад тых баёў заставалася яшчэ ў 1960-я гады на палях і ў лясах. А калі ўлічыць, што вырас я адзін, без бацькі, з бабуляй і дзядулем (маці працавала па вярбоўках на цаліне і ў Сібіры, а бацька загінуў у надзвычайным здарэнні падчас вайсковай службы), то стане зразумелай мая зацікаўленасць ваенным пошукам і лёсам салдат, якіх пабілі тут у 41-м. Да таго ж, з васьмі братоў роднага дзеда Дзяніса шасцёра не вярнуліся з вайны. Такі трагічны лёс сям'і пастаянна будзіў разважанні, дзе не было месца абыякавасці і чэрствасці.

Не сакрэт, што лепшыя творы пра вайну стварылі пісьменнікі-празаікі — яе ўдзельнікі ці сведкі. Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, Віктар Астаф'еў, Канстанцін Сіманаў, Мікалай Чаргінец — гэтыя імёны для мяне сёння арыенціры і прыклады таго, як важна акуратна, трапятліва і ўважліва ставіцца да фактаў ваеннай гісторыі. І калі ў Магілёве ці з Мінска журналісты, рэдактары тэлебачання ці сцэнарысты звяртаюцца па экспертную ацэнку той ці іншай ваеннай падзеі, а потым на сумневы апанентаў адказваюць: «Матэрыял глядзеў Барысенка!», то для мяне гэта найвышэйшая адзнака маёй творчай дакументальнай дзейнасці.

**— Калі знаёмішся з вашай творчасцю, узнікае вобраз брутальнага, я б сказала, пісьменніка ў сэнсе яе тэматычнага напрамку. Мужнасць. Подзвіг. Вайна. Прычым вайна ў самыя драматычныя ці трагічныя моманты. А яшчэ — памяць. Пераемнасць пакаленняў… Чаму — менавіта ўсё гэта? Грамадзянская пазіцыя? Генетычная памяць?.. Ці нешта іншае?**

— Напэўна, усё разам. Справа ў тым, што акрамя пісьменніцкай дзейнасці я займаюся яшчэ і пошукавай працай з моладдзю — практычна па ўсіх войнах, што пракаціліся па Усходняй Беларусі: Паўночная вайна, вайна 1812 года, Першая і Другая сусветныя войны… У 1994 годзе мы стварылі Магілёўскі гісторыка-патрыятычны пошукавы клуб "Віккру" і з таго часу дапамагаем родным і блізкім загінуўшых высветліць лёс салдат, што прапалі без вестак, вяртаем гісторыі невядомыя старонкі тых падзей.

Значны час забірае якраз гэтая праца ў арганізацыі, якой я кірую ўжо 22 гады. Як можна зацікавіць больш як сотню членаў клуба ў неабходнасці такой патрыятычнай дзейнасці без паказу мужнасці і подзвігу на вайне, грамадзянскай пазіцыі і пераемнасці пакаленняў? Да таго ж, сярод нашых членаў — студэнты і гісторыкі, пісьменнікі і навукоўцы, педагогі і краязнаўцы… Вось такі своеасаблівы, лічу, вельмі адукаваны, інтэлігентны пласт грамадства Магілёўшчыны, аб'яднаны патрыятычнай ідэяй. Сярод найбольш актыўных і вядомых — Ігар Марзалюк, Сяргей Бяспанскі, Аляксандр Косцераў, Святлана Хадоркіна, Міхаіл Шымукенус, Уладзімір Якубоўскі ды іншыя. Арганізацыя стала сапраўднай навуковай лабараторыяй па даследаванні вайны і краязнаўства на ўсходзе Беларусі. Менавіта так на справе мы правяраем архіўныя напрацоўкі з прывязкай іх да мясцовасці. А робіцца гэта падчас пошукавых экспедыцый, у школьных музеях, сустрэч са старажыламі і сведкамі падзей. Невыпадкова на такіх матэрыялах пабудаваны практычна ўсе мае творы. Працаваць з аднадумцамі адначасова і лёгка, і цяжка, бо пастаянна трэба адпавядаць іх высокім патрабаванням і ўзроўню ведаў. Калі гэтага не будзе, паміж лідарам і калегамі-аднадумцамі ўзнікае бездань, асабліва калі ўлічыць, што кожны тут займаецца сваёй працай добраахвотна, без прымусу і аплаты, у адрозненне ад некаторых «саюзаў» і арганізацый», якія пазіцыянуюць сябе як грамадскія, а самі «сядзяць» на бюджэце.

Дзякуючы падтрымцы абласных улад (я назваў бы імёны Валерыя Малашкі, Андрэя Кунцэвіча, Алега Пішчанкі, Алега Стальмашка і Леаніда Мінава), мы працягваем выключна на грамадскіх пачатках выхоўваць моладзь і служыць на карысць Беларусі. Пэўную дапамогу аказвае і расійскі бок. Кніга, пра якую ідзе размова, выйшла пры фінансавай падтрымцы расійскага пасольства.

**— Бачна, што ўганараваная нацпрэміяй кніга сталася вынікам агромністай працы. Архівы, дакументы, ілюстрацыі... І, безумоўна, аб'ём… Як усё гэта нараджалася на свет?**

— Адназначна назваць дату, калі пачалося стварэнне кнігі «Эхо Великой войны в Восточной Беларуси (1914 — 1918)», немагчыма. На працягу апошніх прыкладна 10 год забытая тэма Першай сусветнай пацыху развівалася: збіраўся матэрыял, складаўся банк дадзеных па Георгіеўскіх кавалерах — ураджэнцах Усходняй Беларусі. Прычым дапамагалі ўсім мірам, людзі прыходзілі, тэлефанавалі, пісалі на электронны адрас, сустракаўся з імі ў раёнах, у музеях, дапамагалі і калегі-краязнаўцы, асабліва з Расіі. Найбольш масава разгарнулася праца ў апошнія 2-3 гады, пасля таго як разам з абласной газетай «Магілёўскія ведамасці» мы распачалі праект «Георгиевские кавалеры: вы были — мы помним!». Далі плён дзясяткі артыкулаў у прэсе, выступленні на радыё, тэлебачанні, перад педагогамі. На сёння вядома ўжо каля 170 Георгіеўскіх кавалераў — нашых землякоў, але я добра разумею, што гэта толькі маленькая цаглінка ў падмурку вялікай высакароднай працы, якую абавязкова трэба працягваць. Тым не менш пакуль што гэта самы буйны банк дадзеных на Беларусі. Дарэчы, царскі поўны Георгіеўскі кавалер (чатыры крыжы IV — I ступеняў) стаіць на адным узроўні з Героем Савецкага Саюза ці кавалерам ордэна Славы трох ступеняў. І пры цару, і пры савецкай уладзе Айчына ўсалдата адна. Здзейсніўшы геройскі подзвіг падчас яе абароны, ён годны таго, каб быць ушанаваным сваёй радзімай у памяці нашчадкаў і занатаваным у гісторыі. Спадзяюся, што прыйдзе час, калі звесткі пра поўных Георгіеўскіх кавалераў — ураджэнцаў магілёўскага краю будуць размешчаны на плошчы Славы ў Магілёве.

І такая ёмістая праца ішла толькі над адным з раздзелаў кнігі, хоць і адным з найцікавейшых. Але ж у кнізе ёсць яшчэ раздзелы пра бежанцаў і ваеннапалонных, пра шпіталі, пра Стаўку ў Магілёве Вярхоўнага Галоўнакамандуючага расійскай арміі, якая ператварыла наш горад у палітычны цэнтр імперыі, пра цара Мікалая II ды іншыя цікавыя звесткі пра забытую ў савецкі час Вялікую вайну.

Навукова-папулярная дакументалістыка адметная тым, што аўтар пастаянна вымушаны стрымліваць фантазію: максімальнае, што ён можа зрабіць, — гэта акунуцца ў тую эпоху і збоку, як назіральнік, разглядаць падзеі і факты, якія адбываюцца вакол. Тут не можа быць памылак з датамі, імёнамі, падзеямі. А вось у каментарыях, ацэнках, высновах ты адносна вольны, канечне, у залежнасці ад глыбіні пранікнёнасці ў тэму, кругагляду, назапашанага матэрыялу і таго, што хочаш данесці да чытача. Поспех у гэтым жанры, хаця такога жанру ў класічнай літаратуры і не існуе, залежыць ад таленту аўтара ўжо як публіцыста і аналітыка.

**— Слоган на вашым персанальным сайце абвяшчае: гісторыю трэба ведаць дзеля таго, каб прымяніць яе ўрокі для сучаснасці. Якія ўрокі, з вашага пункту гледжання, вынікаюць з кнігі для сучаснай гісторыі, у тым ліку айчыннай?**

— Займацца гісторыяй для самаўдасканалення ці самаадукацыі — гэта крэда яркіх індывідуалістаў-эгаістаў. Яны не хочуць дзяліцца ведамі з іншымі ці не ведаюць, як гэта зрабіць, акрамя, зразумела, педагогаў-прафесіяналаў. Я не магу доўга трымаць нешта новае толькі ў сабе, як асоба грамадская, абавязкова выкарыстоўваю гэта ў стасунках: у першую чаргу з калегамі, пры выступленнях перад моладдзю ці педагогамі, на тэлебачанні і г. д. Калі ты сапраўдны спецыяліст у сваёй галіне, твае думкі ў гісторыі — маці ўсіх навук — абавязкова будуць запатрабаваны не толькі сярод блізкага акружэння, але і ў грамадстве — на карысць Беларусі.


*Мікалай Барысенка на прэзентацыі кнігі «Наш край Могилёвский». Магілёў, 2016 г.*

Спадзяюся, што, нягледзячы на пэўныя ідэйныя прыярытэты, чытач з увагай прыслухаецца да аргументаў і доказаў аўтара, бо ўсе падзеі, іх прычыны і вынікі ў кнізе праламляюцца праз жыцці і лёсы канкрэтных людзей.

Калі вярнуцца да нашай тэмы, то можна з упэўненасцю сказаць, што XX стагоддзе пачалося ў 1914 годзе, перш за ўсё таму, што Першая сусветная ў многім сфарміравала вобраз сучаснай цывілізацыі. Не было ніводнай сферы жыцця чалавека, грамадства, якія б не закранула тая вайна. Менавіта тады масава былі прыменены аэрапланы, танкі, падводныя лодкі і атрутныя рэчывы. Сутыкненні мільённых армій упершыню ў сусветнай гісторыі прывялі да мільённых страт.

Тэзіс «У пачатку вайны ваявалі арміі, а ў канцы яе — народы», — гэта не проста прыгожая фраза. У ім закладзена канстатацыя сутнасці сучаснай вайны, якая ўпершыню адзначана ў ходзе Першай сусветнай. Менавіта гэтыя абставіны (у першую чаргу!), а не маштабы ваенных дзеянняў і колькасць уцягнутых у яе людскіх і матэрыяльных рэсурсаў, дазволілі сучаснікам назваць яе Вялікай вайной. Яе падзеі праз погляд магілёўскага мешчаніна, ваеннапалоннага, мірнага бежанца, прыдворнага чыноўніка, баявога афіцэра складваюцца ў стракатую мазаіку, якая паступова дае падставу для роздуму пра кардынальныя пытанні гісторыі XX стагоддзя.

Для арыентацыі чытача звярну ўвагу на пэўныя паралелі паміж падзеямі 1914 — 1918 гг. і сітуацыяй канца XX — пачатку XXI стагоддзя. Бо менавіта гэтыя абставіны звязаны з акалічнасцямі развалу СССР і, у цэлым, усталяваным пасля Вялікай вайны сусветным парадкам. Асаблівы інтарэс маюць працэсы распаду палітычных інстытутаў, пачынаючы з дэцэнтралізацыі ўлады, падзелу ваенных і адміністратыўных структур, якія ахапілі імперыю ад сталіцы да ўскраін. Многія падзеі 1980 — 1990-х гадоў у СССР, затым у Расіі, а цяпер ва Украіне сведчаць пра тое, што ўрокі Вялікай вайны ў сучасным грамадстве не ўлічаны. І будзе гэта працягвацца да таго часу, пакуль палітычнае кіраўніцтва найбуйнейшых краін свету не дамовіцца паміж сабой аб мірным суіснаванні на планеце Зямля. Без высакамернасці да больш дробных у тэрытарыяльных ці эканамічных адносінах суседзяў.

**— Дзякуй, Мікалай Сяргеевіч, за размову. Упэўнена, што вашы новыя працы абавязкова стануць штуршком для ягоных працягу.**

Гутарыла Інеса ПЕТРУСЕВІЧ

# Пад крыламі ластаўкі

**Першы том выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі» ў чатырох тамах — адна з самых доўгачаканых сёлетніх кніг. Пастанова Савета Міністраў пра апублікаванне творчай спадчыны паэтэсы была падпісана яшчэ ў 1990 годзе. Мінула шаснаццаць гадоў — і вось на блакітна-нябеснай вокладцы лунае белая ластаўка, а задумлівая Яўгенія Янішчыц усміхаецца няўлоўнай усмешкай...**

Непасрэдная праца над выданнем распачалася ў 2012 годзе, пасля таго, як сяброўка і аднакурсніца паэтэсы Тамара Аўсяннікава звярнулася да галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктара Шніпа з пытаннем, ці плануецца выдаць поўны збор твораў Яўгеніі Янішчыц.

— Вось і вазьміцеся, — прапанаваў Віктар Анатольевіч.

Да справы далучыліся кандыдат філалагічных навук, дацэнт Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Святлана Калядка. Парадамі і матэрыяламі дапамагла дырэктар Літаратурнага музея Яўгеніі Янішчыц Антаніна Сідарук, якая вучылася ў адной школе з паэтэсай. Антаніна Сідарук узяла ўдзел у распрацоўцы радаводу Яўгеніі Янішчыц.

У першым томе прадстаўлены вершы з першых пяці зборнікаў вядомай паэтэсы. «Снежныя грамніцы» — светлая, радасная, нават гарэзлівая паэзія, безумоўны творчы поспех маладой аўтаркі, якая мела толькі дваццаць два гады. «Прыедзь у край мой ціхі», «Ты пакліч мяне. Пазаві...» — гэтыя знакамітыя вершы былі апублікаваны ўжо ў першай кнізе Яўгеніі Янішчыц.

Другі паэтычны зборнік «Дзень вечаровы» ў свой час не займеў станоўчых водгукаў у літаратурна-мастацкіх выданнях. Чаму? Паразважаць над гэтым пытаннем было б карысна ўсім, хто спрабуе сілы у паэзіі і крытыцы.

«Ясельда», «На беразе пляча», «Пара любові і жалю» — наступныя кнігі ўмацавалі аўтарытэт Янішчыц-паэтэсы. Але на працягу васямнаццацігадовай творчай працы яна зведала не толькі натхненне, але і жыццёвыя расчараванні. «Крайняя ступень праяўлення напружання паміж Ёю і Ім» у творах інтымнай лірыкі, частыя трагічныя ноткі, любая вёска і родная прырода — як суцяшэнне, ратаванне і прытулак...

*Стала завялікай наша хата,*
*Ацішэў вясёлы наш куток.*
*Ды і мне знайшоўся памагаты —*
*Гаварлівы сонечны сынок.*

*Вось вясна сатчэ свае красёнцы.*
*Дол абудзіць пошчак салаўя.*
*Усё міне.*
*А будзе сын і сонца.*
*І між іх — зямлёю буду я.*

Між вершамі — выява ластаўкі, кожная старонка падзелена на дзве часткі. Побач з творамі даследчыкі і крытыкі розных пакаленняў абмяркоўваюць, удакладняюць, параўноўваюць творы Яўгеніі Янішчыц — тут змешчаны цытаты з літаратуразнаўчых прац, рэцэнзій, успамінаў. Так побач з голасам паэтэсы гучаць меркаванні яе праніклівых, захопленых, чуйных чытачоў — калег па творчым цэху, даследчыкаў, крытыкаў. Любоў Ламека, Мікола Хведаровіч, Марына Барсток... Многія прозвішчы амаль невядомыя шырокаму чытачу, таму арыгінальная канцэпцыя выдання бачыцца добрай магчымасцю нагадаць пра ўдзельнікаў літаратурнага працэсу, якія робяць значную справу, але не здабываюць лаўровых вянкоў. Тым больш што крытычныя і навуковыя матэрыялы, якія цытуюцца побач з вершамі, не ўваходзяць у склад выдання ў поўным аб'ёме.

Асобныя каментарыі з'яўляюцца непасрэдным водгукам на верш, іншыя хутчэй удакладняюць яго месца ў творчасці Яўгеніі Янішчыц. Так, увага надаецца светапогляду паэтэсы, галоўным тэмам і вобразамматывам яе паэзіі, стаўленню да творчасці, прыроды, блізкіх людзей.

— Каментарыі, змешчаныя побач з вершамі, разлічаны ў першую чаргу на вучняў, студэнтаў, настаўнікаў і выкладчыкаў. Цытаты падбіраліся, каб прадставіць найбольш поўную інфармацыю пра верш, звязаную не толькі з варыянтамі яго напісання і гісторыяй апублікавання, але і з асаблівасцямі ўспрымання і аналізу твора даследчыкамі і проста чытачамі, — адзначае Святлана Калядка.



*Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі. У 4 т. Т. 1 / уклад.: С. У. Калядка, Т. П. Аўсяннікава; рэд. тома Л. Г. Кісялёва. — Мінск: Беларуская навука, 2016. — 599 с., [6] л. іл.*

Каб старонка з вершамі і цытатамі выглядала прыгожа, па прапанове рэдактараў выдання інфармацыя пра крыніцы літаратуразнаўчых каментарыяў вынесена ў асобны дадатак, які будзе апублікаваны ў другім томе.

Чатырохтомнае выданне, прысвечанае Яўгеніі Янішчыц, — своеасаблівая персанальная энцыклапедыя. Выданне выходзіць за межы патрабаванняў да збору твораў, таму ўжо ў першым томе прадстаўлены шэраг дадаткаў: радавод, хроніка жыцця і творчасці ды ўспаміны пра паэтэсу. Успаміны плануецца змяшчаць у кожным з чатырох тамоў.

У першай кнізе пра Яўгенію Іванаўну распавядаюць сваякі, былыя аднакласнікі і школьныя настаўнікі. Большасць матэрыялаў друкуецца ўпершыню, у тым ліку інтэрв'ю Тамары Пятроўны Аўсяннікавай з сынам паэтэсы Андрэем Сяргеевічам.

Добразычлівая, узнёслая, шчодрая, гасцінная, увішная — такой паўстае Яўгенія Янішчыц на старонках успамінаў. Аднакласнікі і настаўнікі звяртаюцца да школьных поспехаў таленавітай вучаніцы, шматлікія пляменніцы і суседкі згадваюць гасцінцы ад паэтэсы, сустрэчы з ёю ў Мінску і роднай вёсцы. *«Жэня любіла бываць дома, асабліва на Каляды. Вакол сумёты, сцены ад марозу трашчаць, а ў хаце грубка гарачая. Цёпла, утульна. Жэня на печ залезе і вершы складае. Часцей за ўсё ноччу. Усе спаць лягуць, а яна сядзіць, піша. Так да самай раніцы і прасядзіць над вершамі»*, — успамінала Лідзія Саўчук з вёскі Велясніца.

Жаночыя імёны відавочна пераважаюць у дадатку: па словах Тамары Аўсяннікавай, мужчыны аддавалі перавагу лаканічным азначэнням, да таго ж дзяўчаты заўсёды маюць больш блізкія і даверлівыя адносіны. У наступных тамах гэтая рэдкая несуадноснасць зменіцца на карысць мужчын (да друку рыхтуюцца ўспаміны аднакурснікаў паэтэсы і пісьменнікаў).

У склад чатырохтомнага выдання акрамя твораў увойдуць інтэрв'ю з Яўгеніяй Янішчыц, прысвечаныя ёй вершы (сёння іх налічваецца больш за сотню), два мультымедыйныя дадаткі. На адным з дыскаў змешчаны альбом песень на словы паэтэсы ў выкананні Таццяны Беланогай, фотаздымкі Яўгеніі Янішчыц і вершы ў аўтарскім прачытанні, на другім — фільмы пра паэтэсу.

Выданне збору твораў будзе завершана да найбліжэйшай юбілейнай даты — 20 кастрычніка 2018 года споўніцца семдзесят гадоў з дня нараджэння Яўгеніі Янішчыц.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Калі тэма «перамагае» задуму

**Пры шырокім распаўсюдзе электронных кніг сёння ўжо неабавязкова скіроўвацца ў кнігарню ці выдавецтва для таго, каб набыць кнігу. Магчыма, менавіта ў сувязі з гэтым вядомае ўсім з дзяцінства выслоўе, што «лепшы падарунак — гэта кніга», якое пазней стала жартам, неўзабаве верне свой першапачатковы сэнс. І зробіцца незвычайным ды густоўным падарункам. Мабыць, менавіта на гэта разлічвалі стваральнікі кнігі «Ад шчырага сэрца: падарунак любай маме», што пабачыла свет у «Мастацкай літаратуры». Пачынаць размову пра гэтае выданне сапраўды варта са слова «падарунак», бо яно тут вызначальнае.**

Ідэя аб'яднаць пад адной вокладкай біяграфіі альбо проста расповеды пра матуль знакамітых творчых дзеячаў (Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, К. Крапівы, Л. Талстога, В. А. Моцарта, Гётэ, Леанарда да Вінчы і інш.), рэпрадукцыі карцін (М. Савіцкага, П. Шарыпы, Н. Шчаснай, Б. Казакова, Рафаэля, Г. Доў і інш.) і скульптурных кампазіцый на тэму мацярынства (А. Шатэрніка, Н. Якавенкі) і мастацкія творы многіх беларускіх пісьменнікаў, прысвечаныя маці, цікавая. Гэткая міні-энцыклапедыя. Аднак слова «падарунак» адначасова мае на ўвазе і адрасата, а з гэтым, мяркую, ёсць праблема. Кніга зробленая сапраўды як падарунак — на добрай паперы, з шыкоўнымі ілюстрацыямі. Выглядае прэзентабельна і ідэальна падыходзіць у якасці прэзента мамам-філолагам, мамам-пісьменніцам і мамам пісьменнікаў, мамам-мастачкам і мамам мастакоў, мамам — аматарам літаратурных гісторый… Але мне здаецца, што колькасць такіх мам можа быць меншай за 1600, лічбу, пазначаную ў выходных дадзеных.

Мяркую, вельмі карысным гэтае выданне было б для філолагаў — найперш для больш дэталёвага вывучэння біяграфій пісьменнікаў. Калі гаворка вядзецца пра маму знакамітага чалавека, то ў большай ступені яна ўсё адно вядзецца пра вытокі і прыроду яго таленту, а не пра яго бацькоў. Каштоўным дапаможнікам з розных нагод кніга магла б стаць і для вучняў старэйшых класаў — для напісання сачыненняў па тэме мацярынства, для падрыхтоўкі да заняткаў па творчасці беларускіх і рускіх пісьменнікаў, па гісторыі сусветнай музыкі і жывапісу. Бо школьніка часта можа зацікавіць менавіта такая «асабістая», сямейная гісторыя, аздобленая кранальнымі ўспамінамі. І куды больш, чым абзацы ў даведніках і энцыклапедыях! Аднак стваральнікі гэтага праекта бачылі ў ім найперш «падарунак любай маме».

Па вялікім рахунку, у кнізе нічога новага — усе гісторыі і мастацкія творы (маю на ўвазе як карціны, так і вершы і апавяданні) мусяць быць знаёмыя чалавеку, так ці іначай звязанаму з культурнай сферай. Іншая рэч — звязанае ў адно цэлае як пэўны канцэпт усё гэта ўспрымаецца іначай. А вось чалавеку, далёкаму ад літаратуры і мастацтва, тут сапраўды будзе чым «пажывіцца»: напрыклад, біяграфія маці Якуба Коласа ці Міхаіла Лермантава дае ўяўленне не толькі пра аднаго чалавека ці адну сям'ю, але ў пэўным сэнсе і пра эпоху, асяроддзе. Да таго ж, побач з рэпрадукцыямі мастацкіх шэдэўраў змешчаны і партрэты праслаўленых сваімі дзецьмі матуль і фотаздымкі беларускіх пісьменнікаў разам з іх мацяркамі, што таксама для нас сённяшніх адлюстроўвае ў першую чаргу мінуўшчыну.

Вобраз маці, створаны і ва ўспамінах, і ў творах беларускіх пісьменнікаў, па сутнасці аднолькавы. Гэта разумная ад прыроды, хаця і недастаткова адукаваная, чуллівая і лагодная, хаця і не спешчаная жыццём і лёсам, працавітая і трывалая, хаця і не заўсёды фізічна моцная жанчына. Маці, да якой уганараваныя творцы вяртаюцца праз кіламетры і гады, як да вытокаў усяго, што маюць. Кніга «Ад шчырага сэрца: падарунак любай маме» адрасаваная менавіта гэтым мамам, бо яны і ёсць гераіні выдання, але акурат іх у пераважнай большасці сваёй ужо і няма сярод жывых. Вобраз маці сучаснага пісьменніка відавочна будзе іншым, як і шляхі ў мастацтва сучасных творцаў.

Мастацкія ілюстрацыі ў кнізе — на больш высокім, лічу, узроўні, чым мастацкія тэксты, магчыма, таму, што колькасць іх з тэхнічных прычын, вядома ж, абмежавана. Шмат пытанняў выклікае апошні раздзел, у якім змешчаныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча, І. Мележа, М. Танка, Я. Сіпакова, П. Броўкі, Я. Янішчыц, Р. Баравіковай, а таксама М. Мятліцкага, В. Шніпа, Л. Рублеўскай, В. Паліканінай, У. Мазго ды іншых. Не ўсе вершы, адабраныя для кнігі, уяўляць сабой вышыню паэтычнага майстэрства, і гэта супярэчыць агульнай канцэпцыі кнігі. Да таго ж, такому «альбомнаму» фармату яўна не пасуе празаічная форма. Апавяданні выглядаюць тут лішнімі, пагатоў, у большасці з іх, як мне падаецца, гаворыцца і не зусім пра маці, хаця згадваецца, што праўда, у кожным творы.

Магчыма, тэма перамагла стваральнікаў у першую чаргу сваёй неабдымнасцю: не ўсё, адабранае ўкладальнікам, мае сапраўдную мастацкую каштоўнасць, не ўсё адпавядае задуме. Аднак хочацца верыць, што тыя мамы, якія атрымаюць кнігу ў падарунак, будуць усцешаныя намерам стварыць «гімн усім маці свету», увасобленым у гэтым выданні.

**Жанна КАПУСТА**

# З любоўю да жыцця

**Першы зборнік паэзіі мастака Анатоля Галушкі «Сляды на пяску» пабачыў свет у 2012 годзе ў Брэсцкім выдавецтве «Альтэрнатыва». І вось новая кніга «Яблычны Спас» (выдадзеная «Брэсцкай друкарняй»). Гэтым разам пад адной вокладкай сабраныя і паэзія, і проза.**




Анатоль Галушка нарадзіўся ў вёсцы Магіліцы Івацэвіцкага раёна. У 17-гадовым узросце атрымаў першую групу інваліднасці. Пералом пазваночніка дактары канстатавалі як несумяшчальны з жыццём. А ён выжыў. Больш за тое, стаў знакамітасцю. У першую чаргу як вельмі мужны чалавек і вялікі жыццялюб, як мастак (піша палотны, трымаючы пэндзлік у зубах, прычым, лежачы ў ложку, удзельнічае ў прэстыжных мастацкіх выстаўках) і не ў меншай ступені як пісьменнік (член Саюза пісьменнікаў Беларусі), герой дакументальнай кінастужкі «Крокі над вадой» («Беларусьфільм»).

...З першых радкоў як рэдактар выдання я трапіў у палон суладдзя пяшчоты, забыўся, што эмоцыі трэба цугляць, а тэксты разглядаць з тэхнічнага боку. Але як іх зацугляць, тыя эмоцыі?

*«Прыйшоў у сад. // Былое, дзе ты? // Стаяў, схіліўшы галаву. // А пераспелыя ранеты // З нябёсаў падалі ў траву»*, — чытаеш і сам ператвараешся ў лірычнага героя твора... Пра якую тэхніку тут помніць! Зрэшты, і тэхнічна рукапіс быў бездакорны: законы вершаскладання не парушаныя, проза каларытная, слова да слова падагнаныя, як цаглінкі муру, выкладзеныя віртуозам-мулярам.

Сур'ёзная, адказная і вельмі няпростая справа — рэдагаванне — у выпадку з кнігай Анатоля Галушкі сталася суцэльным задавальненнем. Якое ўсё ж падобнае жыццё ў незлічкіх палескіх вёсках! Дзе маё Заверша на Драгічыншчыне і дзе Магіліцы на Івацэвіччыне, а чытаеш — нібы пра сваё: як сена грэблі, як у хакей гулялі, як у горад ездзілі, як свінню смалілі… І жартаўнікі-гумарысты кшталту магіліцкіх у кожнай вёсцы ёсць, і гісторыі смешныя альбо страшныя падобныя, асабліва сваім каларытам, а героі — сваім светаўспрыманнем...

Дык вось, самае каштоўнае ў кнізе «Яблычны Спас» тое, што аўтар, выкарыстоўваючы багачэзную палітру тропаў, адшліфоўваючы кожны твор, не зашліфоўвае дух, унутраную сутнасць, першароднасць часу і месца. А месца гэтае ад першага да апошняга радка — якраз Магіліцы і ваколіцы вёскі. Нават калі герой расповеду апынаецца ў горадзе, ён і тут «носіць сваё неба з сабою». Для пісьменніка Анатоля Галушкі ўсё, што вакол, ды і ён сам — літаратура. Нібыта вясковае жыццё, сённяшняе і даўняе, яго ўласнае і земляко́ў, не рэчаіснасць, а твор, адно што без пачатку і завяршэння, альбо бясконцая чарада радкоў. Пачатак новага дня — гэта пачатак новага твора.

Дарэчы, пра тое, што змешчаныя ў кнізе творы, найперш празаічныя, прысвечаныя радзіме, землякам, сведчыць і сам аўтар у «Слове да чытача».

*«Многіх з тых, хто ўпамінаецца ў кнізе, ужо даўно няма на гэтай зямлі. Але я шчыра веру, што яны не зніклі ў Нікуды, не растварыліся ў бясконцасці. <…> Апошнім часам часта чую: не тыя сёння людзі, не такія адносіны, як раней. Больш зайздросныя, скваплівыя, не памяркоўныя. Можа, і ёсць якая рацыя ў такіх словах. Але мне здаецца, тым, хто так кажа, не шанцавала на людзей добразычлівых, адкрытых, шчодрых і шчырых. Мне шанцавала і шанцуе дагэтуль»*.

Каштоўнасць гэтай кнігі яшчэ і ў тым, што яна прасякнутая аптымізмам. Аўтар шчодра дзеліцца бадзёрасцю з чытачом і хіба на якое імгненне адчувае адчай:

*Хай з неба зор мне не дастаць,*
*Ды мне не зорак… мне каб толькі*
*На месяц, тыдзень, дзень устаць*
*З такой абрыдлай мяккай «койкі».*

Ды гэтая дробачка-кропля адчаю патанае ў моры аптымізму:

*Упарта важкі крыж нясу*
*Без крыўды, слёз і шкадаванняў,*
*Пішу зямлі маёй красу —*
*У тым знайшоў сваё прызванне.*

Вось ён — яскравы прыклад найвялікшага жыццялюбства, працавітасці і сілы духу. Анатоль бачыць у людзях толькі станоўчыя якасці, падкрэслівае іх пры кожным зручным выпадку, і гэтае становіцца вяртаецца да яго. Як толькі наспела патрэба выдаць «Яблычны Спас», адразу ж знайшліся тыя, хто кінуўся на дапамогу, а аўтар не прамінуў выказаць у «Слове да чытача» шчырыя словы ўдзячнасці галоўнаму рэдактару газеты «Івацэвіцкі веснік» Аляксандры Джэжора, а таксама работнікам рэдакцыі: карэктару Таісіі Кавальчук і адказнаму сакратару Валерыю Гапееву. Валерый Гапееў, дарэчы, паруліўся не толькі пра мастацкае афармленне кнігі, але і пра пошук мецэнатаў.

Дык у добры шлях, кніга-гімн! Гімн жыццю, гімн святлу, гімн Магіліцам і кожнай палескай вёсачцы, гімн Чалавеку з трапяткою душой, вялікім сэрцам, моцным духам і нягнуткаю воляй.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

*Надрукавана ў «Маладосці»*

# Таямніцы ўніверсітэта

## і крыху алхіміі

Жанр гістарычнага дэтэктыва — выдатны шанец для беларускага пісьменніка займець прыстойную чытацкую аўдыторыю. І вось… Спякотным чэрвеньскім полуднем 1570 года ў ваколіцах Кёнігсберга выяўляецца чарговае злачынства: забіты прафесар метафізікі Якаб Прудэнціус. Забойцу неўзабаве выкрывае Андрэй Станкевіч — студэнт знакамітай Альбярціны, назіральны, кемлівы і іранічны хлопец. Абгрунтаваць абвінавачванне няпроста, але герою шанцуе. Першая разблытаная справа прыводзіць юнака на юрыдычны факультэт. А ў эпіграфе ўжо падрыхтавана рэкамендацыя ад Уладзіміра Караткевіча: Андрэй Станкевіч — самы славуты следчы і суддзя беларускага сярэднявечча.

Чытач можа ведаць гэтага героя па шэрагу апавяданняў Ягора Конева і п'есе «Злачынства і пакаранне на берагах Свіслачы», адзначанай ІІ Нацыянальнай літаратурнай прэміяй. Выдатна, што гэтым разам пісьменнік перасяліў Андрэя Станкевіча ў аповесць, напісаную з разлікам на падлеткаў. Атмасфера таямнічага, умоўна «сярэднявечнага» ўніверсітэта будзе даспадобы шматлікім аматарам Гары Потэра. Але «Андрэй Станкевіч і Таемнае мастацтва» — твор, які зацікавіць не дзівосамі, а гістарычнымі рэаліямі. Ва ўніверсітэтах XVI стагоддзя першакурснікі слухаюць лекцыі, седзячы на падлозе на жмутах саломы, за абразу рэктара шкаляроў караюць дубцом ля ганебнага слупа, а асістэнт прафесара толькі і робіць, што цягае скураны мех з кнігамі выкладчыка ды сігналіць свістам пра пачатак заняткаў. Асістэнтам Прудэнціуса якраз і з'яўляецца Андрэй Станкевіч.

Крыху містыкі ў творы таксама прысутнічае: прафесар метафізікі захапляецца алхіміяй, мае невялічкую лабараторыю і спрабуе шляхам хімічных эксперыментаў утварыць дзівосныя, цудадзейныя сродкі. *«Такім апантаным, як ён, мне ніколі не быць. Але, можа, і я калісьці з Боскай ласкі стану такім жа разумным?..»* — разважае галоўны герой. Пашана да мудрасці выкладчыка цягам стагоддзяў рухае наперад навуку, і здольны вучань Андрэй Станкевіч — выдатны прыклад для моладзі.

Як і мае быць у эпоху постмадэрнізму, новая аповесць Ягора Конева прадугледжвае некалькі прачытанняў. Чытачы, якія толькі прадчуваюць далучэнне да вялікай рэспублікі студэнтаў, наўрад ці звернуць увагу на ідэі, якія зацікавяць людзей, набліжаных да навукі. Так, пісьменнік звяртаецца да адвечнай праблемы змены эліт. *«Няўжо я адзіны памятаю, што толькі кроў і старадаўні радавод далучаюць да кола абраных? — абураецца адзін з нямецкіх прафесараў. — Набытыя веды могуць прыхаваць нізкае паходжанне. А кроў, што цячэ ў маіх жылах, ужо ўганаравана заслугамі славутых прашчураў»*. Незадаволенасць нашчадка нямецкіх рыцараў мае непасрэднае дачыненне да лёсу Якаба Прудэнціуса — ураджэнца Літвы і пляменніка Францыска Скарыны.

Андрэй Станкевіч — суайчыннік прафесара, ён нарадзіўся ў Менску і плануе вярнуцца ў Вялікае Княства Літоўскае, каб клапаціцца пра выкананне законаў. *«Калі служыць закону стануць людзі шчырыя і неабыякавыя да чужога гора, то хрысціянскае гаспадарства хутчэй здабудзе ласку нябёсаў»*, — упэўнены герой. Гэтыя словы могуць падацца занадта ўзнёслымі — затое пісьменнік красамоўна нагадвае, што чалавек працуе не толькі дзеля грошай, але і дзеля супольнага дабрабыту.

Сумленны, разумны і адказны, часам высакародны, а часам крыху фанабэрлівы, Андрэй Станкевіч — вельмі сімпатычны персанаж. Перспектыўны герой, з якім мае адбыцца шмат цікавых здарэнняў у свеце, нязвыклым для сучаснага чытача, — выдатная задума для вялікай кнігі. Першая частка аповесці была надрукавана ў ліпеньскім, другая — у вераснёўскім нумарах «Маладосці», і трэба думаць, што прыгоды Андрэя Станкевіча на гэтым не скончацца...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# На мове творчасці:

## простасць як «Спроба перакладу»




**У серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі», заснаванай у 2011 годзе, выйшла новая кніга Філмара Плэйса «Спроба перакладу» — вельмі цікавы зборнік хайку.**

Традыцыйны японскі хайку — гэта паэтычная мініяцюра з трох радкоў, звышзадача якой палягае ў адлюстраванні непарыўнага адзінства прыроды і чалавека. Эмацыянальны стан лірычнага героя ўплывае на наваколле, наваколле натхняе засяроджанага назіральніка на пэўныя развагі: усё так шчыльна звязана, што немагчыма правесці дакладную мяжу. Аўтар айчынных хайку Філмар Плэйс (Уладзімір Ашурка) адчувае сутнасць мініяцюры не горш за ўраджэнца Японіі: ён мае досвед у стварэнні паўнавартасных вершаў з дапамогай некалькіх радкоў, неаднаразова перамагаў на расійскіх конкурсах кароткіх вершаў, выдаў колькі зборнікаў. Паэзія Філмара Плэйса вылучаецца пошукамі схаванага сэнсу, імкненнем зазірнуць углыб рэчаў, дайсці да сутнасці праз матэрыяльную абалонку. Усё гэта адпавядае лірычнаму настрою кароткіх японскіх вершаў, таму хайку ў беларускім зборніку гучаць натуральна і шчыра.

Нягледзячы на гаваркую назву, «Спроба перакладу» не мае ніякага дачынення да звычайных перакладаў з адной мовы на іншую. У зборніку ўвасобілася жаданне аўтара перакласці імклівыя, але прыгожыя і непаўторныя моманты нашага жыцця на мову творчасці і паэзіі. Здаецца, што Філмар Плэйс, як калісьці Фаўст, запатрабаваў: «Спыніся, імгненне!» — і яно сапраўды спынілася, замерла ў трохрадкоўях на старонках кнігі.

У большасці хайку Плэйса пануе меланхалічны настрой: *«пустая веранда / дождь не наполнит никак / разбитую чашку»*. Гэта сум сузіральніка, што бачыць перад сабой сцэны з жыцця, што сыходзяць, але не спрабуе іх утрымаць: *«уходят мгновения / всё дальше и дальше — / не все»*. Засяроджанасць і нетаропкасць стварэюцца за кошт панавання назоўнікаў. Адчуваецца і закаханасць у простасць. Простасць, якой патрабуе хайку, вельмі далёкая ад прымітыву, бо пад лаканічнай абалонкай заўсёды схаваная каштоўная думка.

Увогуле, ключ да разумення зборніка Філмара Плэйса — разважанне. Няма добрай паэзіі, што не патрабуе пасля сябе развагі. Але хайку — жанр, заснаваны на недаказанасці, дзе тэкст павінны выклікаць асацыяцыі на ўзроўні падсвядомасці, а не дакладна тлумачыць вобраз. Чытач выконвае ролю сутворцы, ён уносіць асабістэ сэнс у падрыхтаваную аўтарам абалонку.

Нельга забываць і пра культурныя асаблівасці, патрэбныя для прачытання асацыятыўных вершаў. Тым і цікавы для нас зборнік «Спроба перакладу»: у ім можна сустрэць моманты, знаёмыя кожнаму беларусу. Гэта і нечаканы напамін пра Новы год (*«оттепель / прорастают из снега / шкурки мандарина»*), і згадкі летніх вечароў (*«дачный посёлок / чай с вишнёвым вареньем / косточки через двор»*), і малюнкі з дзяцінства (*«маме цветок / рисует в подарок малыш / языком помогает»*)…

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

Васіль МАКАРЭВІЧ



## Балада Каліноўскага

*Я добра знаў
І верыў па-ранейшаму:
Пад Вільняй пільнай, на скупой вярсце,
Дзе жвір з падзолам густа перамешаны,
Не крыж, а меч над прахам
Прарасце.*

*За колькі вёрст
Ад гарадскога лёскату,
Ў абрыўку-ценю камняў-спарышоў,
Нарэшце лёх змаганца Каліноўскага
Па клінапісе зорным
Я знайшоў.*

*Па забарскі
У гліну пракаветную
Пагрузнуў, як скупеча са скупеч.
Пакуль нарэшце з прорвы апраметнае
Не выцягнуў, нібыта вырваў,
Меч.*

*І як нашчадку
Роднаму і блізкаму,
Ледзь толькі меч папаў мне пад руку,
Як замільгалі, ўспыхнулі, забліскалі
Сляды вякоў на тонкім
Вастраку.*

***

*Сцяжыны, лёсу дочкі і абранніцы,
З прасмоленых дзялянак, як з дэпо,
Цераз гушчарнік лезуць, прабіраюцца
Да берага ракі, на вадапой.*

*Рассунуць, раскідаюць лозы ніцыя
І ноччу душнай, пэўна, даўбна
Паволі цэдзяць, аж пакуль не выцадзяць
Раку з вадой крынічнаю, да дна.*

***

*Варочаюся ў крэсле, нібы звер,
Ды пахваліцца не хачу прылюдна.
Ка мне прыходзіць па начах Гамер
Пагаварыць адкрыта, без прэлюдый.*

*Ідзе гаворка наша па крывой,
Гудзе, то ледзьве вуснамі шавеліць.
Хітне ён на расстанне галавой,
Нібыта я дзівак а ці шаленец.*

***

*Не толькі гарласты і ўладны Каўказ,
А нават і шторм, што грымеў
і далдоніў,
Пасля падарожжаў амаль кожны раз
У ракавіцы з тропікаў вёз я дадому.*

*Калі экзатычных дзівос нестае,
На вокнах зашпільваю тонкія шторы.
І ў ракаўцы той, што ляжыць на стале,
Я слухаю рогат трапічнага шторму.*

***

*За ўсе мае бязладныя гады,
Відно, упершыню сакрэт я выдам, —
Свае ў мяне лады і нелады
Былі з Яе Вялікасцю Фемідай.*

*Здалёк і сёння галавой кіўне —
Бо на бязмене ў час былы, замглёны,
Адважыла, хоць і ўмоўна, мне,
Казённага і жарсцвянога млёну.*

## Гістарычны эскіз

*То ў карэце, то ў вазку
Цераз сёлы, гарадзішчы
З Пецярбурга у Маскву
Падарожнічаў Радзішчаў.*

*Трушчыў коламі жарству,
Цэрквам кланяўся, саборам.
Кожную амаль вярсту
З долу браў і вёз з сабою.*

*А вярнуўся ў Пецярбург —
Да сябе не быў падобны.
І да царскіх ног — бабух! —
Кінуў вёрсты ён з калдоб'ем.*

*З царскіх вуснаў яд і мёд.
Ды на кару скупаваты,
Не кіўнуў на эшафот,
А назваў адно вар'ятам.*

***

*Падэшвы цалуюць прырэчны пясок,
А можа, пясок ёй падэшвы цалуе?
Здаецца, чарот перасмаг, перасох,
Хістаецца, нібы з затокі вяслуе.*

*З прыцмокам чуцён і кароткі ўсхліп
На дне, дзесь у глеі рачным а ці гліне.
Пясок засмактаў яе туфлікі ўглыб, —
Яна тут, на беразе, іх і пакіне.*

***

*На краю лагчыны-ўпадзіны,
Дзе кружыўся воўка віск,
Селішча было закладзена
Пад найменнем Ваўкавыск.*

*У нябёсах хмарка мружыцца,
Атмасферны ўзняўся ціск.
Бы вавёрка ў коле кружыцца
Днём і ноччу Ваўкавыск.*

*А калі з-пад шуфля з пешняю
Вылеціць марозны ўзбліск,
Гляне ўдалеч па-драпежнаму
І прымоўкне Ваўкавыск.*

*Ды свайго замесу-выпечкі,
Час ад часу, як знарок,
Злыбяда ціхом, на дыбачках,
Прабяжыць праз гарадок.*

***

*Рэстаўратары-майстры, урэшце,
Без запінкі і без лішніх слоў,
З «Чорнага квадрата» фарбы зрэжце
І ачысціце за слоем слой!*

*Мо з-пад іх густых напластаванняў,
Што і ў сто не ўлезлі б карабоў,
Выгляне ды навырост устане
З фрэскамі дзівоснымі Рублёў.*

***

*А восень гуляе ў лапту,
Як гэта ў прадзім'е бывае.
Дручком жалуды на ляту
Б'е змаху і долу збівае.*

*У фортку з дубовай грады
Сыпне іх праз чыстую просінь,
Нібы напамін пра гады
І цэнз мой узроставы — восень!*

## Песня

**Марыі Лапа,
кіраўніку клуба «Сузор'е» ў Гродне**

*Каля карала
Зорыца карал
Ды капне з неба знічкаю імгненнаю,
Як толькі песню выведзе харал
У сарафане з вышыўкай
Агменевай.*

*І рэха чуйна
Ходзіць па кутах,
Хістае ў градах пудзіла гароднае.
Пакуль у небе кружыць песні птах
Па-над вячэрняй сціпшанай
Гародняю.*

*То з дымнаю
Гарчынкай палыноў,
То з пахам багуноў сухой імшарыны
У Закарпацці песню слухаў Львоў
І панна Вісла з гжэчнаю
Варшаваю.*

*У песні свісат
І пошчак салаўя,
І сціпаны успялёк заспанай Нарачы.
Ў калысцы песню гушкала жняя,
Сярпом калісьці ніву
Зажынаючы.*

*Быць не магла
Служанкай пры чынах,
У славе не купалася, бы ў возеры.
Хоць часам, як паненку, на чаўнах
На быстрыну стагоддзя
І вывозілі.*

*Калі ж улетку
Жнівень клапатаў,
Перабіваўся то касцом, то возчыкам,
З памежжа Польшчы ў песню залятаў
Бусліны клёкат з неўгамонным
Пошчакам.*

*Яна не раз
Падносіла сюрпрыз, —
Яе пачуўшы, перуны не гракалі
І выклікалі за мяжой на «біс»,
Каб зноў крылом кружыла
Сівагракавым.*

Аксана КАРПОВІЧ



***

*Чым займаецца жанчына,
Калі дома цэлы дзень?
І мужчына,бывацам злыдзень,
Вам адкажа, што нічым.
Посуд чысты не заўважыць
І бялізны свежай горы:
«Замест рук машына мые
Гэтым бабам, што за гора!
Крама — гэта не праблема,
Я і сам магу схадзіць...»
Ды жанчын стыхія — цэны,
Дзе і што танней купіць.
Скласці, вынесці, працерці —
Рукі тут, а ногі там.
Вочы лішні раз прадзерці
Не пашкодзіць мужыкам...
На пліце гарыць яда,
Сцены пэцкае дзіця,
Вэрхал нейкі у кватэры,
Зляюць кашаю шпалеры...
Вось пад вечар час ідзе,
Ўсё прыбрала і памыла!
Муж з парога запытае:
«Што ж ты цэлы дзень рабіла???»*

### Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

## Цуд

*Як горка скардзілася Богу
Гадоў сямнаццаці дзяўчо...
Яна нядаўна выйшла замуж,
Ды дзетак толькі не было.
Даміну з мужам збудавалі,
Амаль усё як у людзей,
Ды жыць нявыказна агідна,
Калі не чуцен смех дзяцей.*

*Ў сяле парады ім давалі —
Людскі язык бы той мастак.
Карціны ўсякія «шапталі»
На розны густ, на кожны смак.
І трэба ж здарыцца такому:
У светлы дзень, у добры час,
Адклаўшы восеньскую стому
У сто дзясяты, мабыць, раз,*

*Знайшла параду маладзіца —
Шматок паперы, адрасок.
І немагчыма не згадзіцца —
Наведаць трэба гарадок.*

*Бабуля, кажуць, там жыве,
І акушэр яна ад Бога.
З часоў вайны прыём вядзе.
Вердыкт выносіць хмура, строга:*

*«Праблема важкая даволі,
Ніхто табе не дапаможа,
А я змагу, з Гасподняй волі...»
Дрыжыць майстрыхі тэлефон,
З усіх куткоў ляцяць званкі.*



*Там нарадзілася дачушка,
А там — крыклівыя сынкі.*

*Паверыць цяжка, немагчыма...
Ужо праз два ці тры візіты
Была цяжарнаю жанчына,
Узнёслай, гордай, дзелавітай!
Аповед часта гэты чую,*

*Бо я галоўны тут герой,
І так карціць сказаць мне «дзякуй»
Бабулі гэтай залатой...*

*Напэўна, ўжо яна не з намі —
Мінула ж 25 гадоў.
Тады я «дзякуй» дасылаю
Да блізкіх, родных, сваякоў.*

Лідзія АДАМОВІЧ



# ЛУКЕРЧЫНЫ КАЗКІ

Лукерка вельмі любіла лес. Яна ведала кожную ягадную мясцінку, кожнае сховішча вялікіх грыбоў-белагаловікаў, ведала, дзе нарадзіліся птушаняткі, і назірала, як маці-птушачкі кормяць іх. Яна адрознівала птушак па галасах і ведала таямніцы маленькіх лясных жыхароў. Адчувала сябе сяброўкай лясных звяроў і птушак, крылатых матылькоў, яркіх самалёцікаў-стракоз, жучкоў, вандраўнічкоў-павучкоў і маленькіх мурашачак. Маленькай часцінкай Сусвету. Яна жыла тут. У школе аднагодкі яе не разумелі, смяяліся, кпілі. Але Лукерка не крыўдавала: хацела, каб і яны таксама навучыліся бачыць свет такім, як яна. Ёй так хораша жывецца ў гэтым казачным свеце прыроды!

Тата працаваў лесніком. Яна любіла сядзець з ім ля вогнішча і слухаць цікавыя аповеды, асабліва пра тое, як было даўней, як татка быў маладым, як пакахаў маму і зімою, на санях, паехаў да яе сватацца... Вось гэта было каханне! Лукерка, як стане дарослай, таксама сустрэне такое каханне! Ёй у класе падабаюцца некаторыя хлопчыкі, але яны не разумеюць яе, не бачаць тое, што бачыць яна. А яшчэ Лукерка любіць складаць казкі! Ідзе па вёсцы да школы праз лес, потым праз поле, пераходзіць рэчку і ўсё фантазіруе. У тым маленькім свеце, які яна стварыла ў сваіх фантазіях, ёсць у Лукеркі верны сябар, які яе абараняе...

— Ты зноў не чуеш, што я табе кажу! — перапыніла яе мары настаўніца. Яна сёння замяняе іх класную кіраўніцу, якая захварэла. Лукерка вельмі любіць Вольгу Сямёнаўну. Пасля ўрокаў клас ідзе да яе дадому — праведаць. І Лукерка таксама пойдзе.

— А ты не пойдзеш з намі! — гаворыць ёй пасля ўрокаў выдатніца Каця, лідар класа. — Ты дрэнна паводзіла сябе сёння! Зноў глядзела ў акно і фантазіравала!

— Казачніца знайшлася! — засмяяўся Вадзік-задзіра.

І Лукерку адпіхнулі і пакінулі ў школьным двары. Спачатку яна хацела заплакаць. «Але мяне любіць сонейка!» — успомніла Лукерка і ўсміхнулася, прыжмурыла вочы. Неба было такое чыстае, блакітнае і пяшчотнае. «Неба таксама любіць мяне! — падумала Лукерка і, зусім падбадзёрыўшыся, заключыла: — Значыць, я харошая! І ўсе людзі харошыя таксама!»

І пакрочыла да рэчкі. Там раслі, а яна гэта ведала, ласкавыя незабудкі.

— Прывітанне! — схілілася яна да кветачак. — Хадзіце да мяне! Сёння мы пойдзем з вамі ў госці!

***

— Добры дзень вам, Вольга Сямёнаўна! — наперабой гаманілі дзеці побач з настаўніцай.

— А дзе ж Лукерка? — пацікавілася тая, ставячы на стол пачастункі: пячэнне ды гарбату.

— Ой, ды яна такая!.. — скрывілася выдатніца Каця. — Навошта яна нам?

У гэты момант дзверы ў хату расчыніліся. Шчаслівая Лукерка, з букетам блакітных незабудак, пад колер сваіх шчаслівых вачэй, гучна прывіталася з усімі.

— Вам прывітанне ад нашай рэчкі! — паднесла Вользе Сямёнаўне букет, усміхнулася: — А ведаеце, каго я там нядаўна бачыла?

— Каго, каго? — зацікавіліся дзеці і настаўніца.

— У нас з'явіліся бабры! — паведаміла дзяўчынка. — Ведаеце, ужо шмат год іх не было, а цяпер вярнуліся!

— Праўда? — зацікавіўся задзіра Вадзім. — Іх жа занеслі ў Чырвоную кнігу.

— І чорных буслоў, — дадаў нехта з дзяцей.

— І кветку Венерын чаравічак, — дадала настаўніца. — Ці бачыў хто з вас такую кветку?

Дзеці ажывіліся, з зацікаўленасцю пачалі гаманіць пра прыроду.

І што за дзіва гэтая Лукерка! Жывая, вясёлая, ну проста званочак! І такая добрая, і любіць усіх! Адным словам, Пасланец Нябёсаў!

## Стары вяз

— А хочаце, я раскажу вам гісторыю аднаго дрэва? — загадкава ўсміхаецца сябрам Лукерка.

На ёй — ружовая сукенка ў чырвоныя кветкі. Гэта мама пашыла такую. А ў косы ўпляла каляровыя стужкі. Лукерка садзіцца на прызбу ля таткавай лесніччоўкі і пачынае расповед.

— Была зіма. Якраз пасля Каляд моладзь каталася з горкі на санках. Прама пад ногі чарняваму Фёдару скацілася Аляксандра. Яму спадабаліся яе ружовыя шчочкі і ямачкі. Вось як у мяне! — зазначыла Лукерка.



Фота Наталлі Шастаковай.

Паглядзела на сяброў уважліва і працягнула.

— Фёдар падняў дзяўчыну і пытае: «Чыя ты будзеш?» — «Міхеева!» — адказала дзяўчына. — «А завуць як?» — «Аляксандра!» — «Ну, тады чакай сватоў у Мясаед», — адказаў Фёдар.

— А ведаеце, што такое Мясаед? — усміхнулася Лукерка. — Гэта тыдзень зімовых вяселляў! Ну дык вось, Фёдар і Аляксандра пажаніліся. А вясною пасадзілі вяз у гонар новай маладой сям'і. Затым пачалася вайна. Фёдар загінуў. А вяз і два сыны Аляксандры і Фёдара раслі ды набіраліся моцы. Старэйшы сын стаў інжынерам, а малодшы — гарманістам. Моладзь часта збіралася пад вязам, танцавала пад гармонік. Успаміналі дзеда Фёдара. Ён згінуў без вестак. Жонка і дзеці не ведалі, дзе яго магіла. Затое на радасць усім рос і красаваўся вяз як напамін пра воіна, які злажыў галаву сваю за Радзіму. Аляксандра дачакалася ўнукаў. Яны часта пыталі пра дзеда: якім ён быў, што любіў, чым захапляўся, як выглядаў. І Аляксандра паглыблялася ва ўспаміны. Фотаздымка ад мужа не засталося: не любіў Фёдар фатаграфавацца. «На жывога глядзіце!» — казаў. А калі бабуля памерла, вяз засох. Яго спілавалі. Восенню з пня мы сабралі цэлае вядро апенек. Гэта быў падарунак ад дзеда Фёдара і бабы Аляксандры з таго свету! — таямніча падзялілася Лукерка. — А вясною з пня пачала расці рабінка. Пэўна, птушачка занесла ягадку ў дзюбцы. А ведаеце, што гэта азначае? Гэта значыць, што род наш працягнецца па жаночай лініі!

Яна ўсміхнулася і дадала:

— Я працягну наш род! Калі я вырасту і выйду замуж, у мяне народзіцца сын. І ён абавязкова стане воінам, каб абараняць нашу Радзіму!

Яна засмяялася, падарыла кожнаму са сваіх сяброў прыгожы восеньскі лісточак і паабяцала, што наступным разам раскажа іншую гісторыю або казку.

## Казка пра маленькую фіялку, якая расла на сметніку

У далёкім куце, ля сцен замка, быў кавалачак неапрацаванай зямлі. Там расло пустазелле. І адзінока стаяла тонкая асіна. Яе лісты ўвесь час дрыжэлі, бо яна вельмі баялася, што прыйдуць людзі і спілуюць яе. У асіны была сяброўка — вялікая зялёная муха, што жыла і харчавалася то ў стайні, то цішком прабіралася на княжацкую кухню, адкуль яе праганяў стары повар. Муха ведала пра ўсе навіны ў замку, асабліва пра тое, хто з кім пасварыўся і дзе што сапсавалася. Гэта былі вельмі добрыя для яе навіны, бо справа ішла менавіта пра харч. Вельмі радавалася муха, калі ў повара нешта псавалася! Любіла яна і стайню, але сярдзіты конюх таксама не шанаваў яе і ганяў адтуль. Кожны дзень у мухі пачынаўся з таго, што яна прылятала да тонкай асінкі і цікавілася:

— Табе зверху відней, хто сёння пасварыўся ў нашым княстве. Я была б вельмі рада, каб да маладой паненкі не прыехаў малады князь! Колькі б тады аб'едкаў засталося мне!

— Навошта ты радуешся чужому гору? — спытала асіна.

— Але тады я буду сытая, бо княззёўна не дакранецца да ежы цэлы дзень, а княжацкі конь так і прастаіць у стайні — вось я пап'ю з яго крыві!

— Ты лепш разведай, ці прыйдуць сюды лесарубы, — папрасіла асіна. — Я чула, у княстве з'явіўся новы бондар. Ён хоча зрабіць асінавую бочку.

— Я чула навіны горшыя! — занепакоілася муха. — У княства прыедзе новы пчаляр. Тут паставяць хаткі для пчол і развядуць кветкі.

Нечакана муха заўважыла маленькую фіялку, што расла ля невялічкага сметніка.

— Якое ўбоства! — скрывілася муха. — Не вынашу паху гэтых кветак. Які з іх толк? Яны не прыдатныя мне да ежы і зусім не смярдзяць!

— І з іх нічога не зробіш, нават бочкі, — падтакнула асіна.

— Навошта вам сварыцца кожную раніцу? — прамовіла фіялка. — Ці не лепей паглядзець, якое сёння сонейка і які прыгожы колер неба?

— Так, я вельмі люблю сонца, — адазваўся нехта з кучы смецця.

Гэта быў невялікі чарвяк, які жыў тут.

— Адкуль ты ўзяўся? — здзівілася муха. — Гэта мая тэрыторыя! Ты, як і гэтая мярзотная фіялка, зусім не да майго густу!

— Ну чаму? — адказаў чарвяк. — Я таксама люблю тое, што прыемна пахне, калі перагнівае... Ляці сюды, можа, знойдзеш для сябе што карыснае...

— Так, тут цёпла, — пагадзілася муха. — Я адкладу тут свае лічынкі. І гэта будзе мая тэрыторыя!

— Але я таксама тут жыву, — запярэчыў чарвяк.

— Мы памірымся з табою, калі ты дапаможаш мне пазбавіцца ад гэтай зануды фіялкі, — сказала муха. — Яна псуе нам усю ідылію! Асабліва мне непрыемна, калі маладая княззёўна хваліць гэтую кветку!

— Фіялку прывёз ёй у падарунак жаніх! — уставіла асіна.

— І дурніца не знайшла ёй лепшага месца, як гэты сметнік! — засмяялася муха. — Я не люблю чужых на маёй тэрыторыі. Калі ты, чарвяк, падрэжаш фіялцы карэньчыкі, то я дазволю табе жыць побач са мною ў гэтым прыгожым сметніку!

— Але гэта мой сметнік! — разлаваўся чарвяк.

— Цішэй! — закрычала асіна. — Сюды ідуць людзі!

Да сметніка і сапраўды накіроўваліся людзі. Наперадзе былі маладая княззёўна са сваім жаніхом.

— Якое брыдоцце! — завішчэла муха.— Мне ніколі не падабалася гэтая пара! Калі яны пажэняцца, у замку зусім не будзе сметнікаў, сапсаванай ежы, бо тое, што яны не з'ядуць, аддадуць бедным! Я чула ўсе іх размовы...

Наступнай раніцай, калі сонейка толькі што выглянула з-за сцен замка, на ранейшым сметніку красавалася поле фіялак.

— Добрай раніцы, асіна! — усміхнулася ёй знаёмая маленькая фіялка. — Якія сёння навіны?

— Усё так цудоўна! — узрадавалася асіна. — А галоўнае — я перастала баяцца!

— Я ведаю, чаму ты баялася, — засмяялася маленькая фіялка. — Бо муха расказвала табе страшныя навіны. А з сённяшняга дня тваімі сяброўкамі будуць пчолы. Яны заўсёды ляцяць на прыгожае!

## Мана

Жылі кароль з каралевай. І не было ў іх дзяцей. Яны пачалі маліцца, і Бог падараваў ім дзяўчынку. Калі ёй споўнілася 18 год, прыйшоў час выдаваць яе замуж. Але дзяўчынка нікога не магла пакахаць, бо сустрэла ў лузе чараўніцу Ману, якая навучыла яе марыць. Дзяўчынка нікога не заўважала навокал і жыла марамі. Аднойчы яна пайшла ў лес і сустрэла там прыгожую жанчыну. Гэта была Лясная Фея.

— Адкрый мне вочы, каб я бачыла рэальны свет, — папрасіла дзяўчына.

— Добра, — адказала Фея. — З сённяшняга дня ты будзеш бачыць рэальны свет і назаўсёды забудзеш свае мары. Але ад цябе трэба адно: ты павінна палюбіць сябе.

— Я пастараюся, — паабяцала дзяўчына.

...Яна ўвайшла ў сваё каралеўства і ўбачыла хлопца, пра якога часта марыла, уяўляла, што ён моцны і дужы і абароніць яе ад усякага зла. Хлопец быў бледны, рухі ягоныя няўпэўненыя, вочы палахлівыя і ўвесь час бегалі, і ён зусім не глядзеў ёй у твар.

«Як я раней не заўважала гэтага?!» — падумала дзяўчына, і ёй стала агідна.

Затым яна сустрэла свайго даўняга сябра, які заўсёды быў побач. Яна паглядзела яму ў вочы і ўсё зразумела: у іх яна прачытала дабрыню і пяшчоту, надзейнасць і каханне. Сёння яна ачуняла і ўжо магла вызначыць, хто з іх сапраўдны мужчына і хто варты кахання. Сэрца яе напоўнілася супакоем. І яна зразумела: гэта яе лёс.

Яны сталі мужам і жонкай. Жылі доўга і шчасліва. І нарадзіліся ў іх дзеці — прыгожыя, дужыя і таксама шчаслівыя. І ўсе яны шанавалі Лясную Фею і абыходзілі бокам Ману — мару, якая ўводзіць у зман.


Фота Кастуся Дробава.

**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# Міша Тапор

*Апавяданне*

У дзверы пакоя пастукаліся. Ніхто не падняўся іх адчыняць, дзверы марудна, са скрыпам адчыніліся, і ў праёме ўзнікла ўскудлачаная галава хлопца. Ён хуценька забег у пакой і тут жа зачыніў за сабой дзверы. Прыхіліўшыся да іх спінай, спрабаваў аддыхацца.

Апрануты ён быў у даўгаваты, нібыта з чужога пляча, пінжак. У правай руцэ незнаёмец трымаў індзейскі тапор. Гэта была зброя племя апачы, якой яны змагаліся з беласкурымі. Тапор і выглядаў у яго руках як зброя, і ствараў уражанне на жыхароў студэнцкага пакоя, якія раптам, ні з таго ні з сяго, сталіся ўдзельнікамі нейкіх непрадбачаных падзей.

— Хлопцы, яны мяне заб'юць, — сказаў госць і пачаў хуценька запіхваць тапор у кішэню за пазухай. Але тапор упарціўся, не ўмяшчаўся, і кудлаты засунуў яго пад папружку. Пры гэтым усхвалявана прамаўляў:

— Яшчэ спатрэбіцца... Яшчэ спатрэбіцца, яшчэ...

Першым адважыўся загаварыць Артур, які нейкім таемным чынам трапіў у жыхары нашага пакоя ў інтэрнат па вуліцы Рачная. Усе ведалі, што ён вучыцца зусім не ў нашым тэхнікуме, а трапіў сюды дзякуючы каменданту. Быццам бы ў суседнім пяціпавярховым інтэрнаце на Металістаў не хапае месцаў. Пакуль не хапае... Дык хай пажыве хлопец!

— Хто яны? — запытаўся Артур.

— Бандыты! — адказаў кудлаты.

— Ты давай, дружа, у шафу, — прапанаваў Артур, — а там будзе бачна.

Не марнуючы ні хвіліны, кудлаты крутануўся ў пакоі і юркнуў у шафу. Зачыняючы яе, супакоіў:

— Не бойцеся, хлопцы. У мяне зброя. Мы выстаім...

Не ведаю, як Артур і Эдзік, а ў мяне штосьці як абарвалася ўнутры. Я не паказваў гэтага. Ці мала чым магло ўсё скончыцца? Нас нядаўна засялілі ў гэты пакой, і пасля вёскі ён здаваўся музеем з палаца багацея. Шкада было такую раскошу страціць.

Мы моўчкі пераглянуліся. Артур прапанаваў:

— Давайце пойдзем прагуляемся... Так будзе спакайней...

Гэта была цікавая прапанова. У тыя часы пакоі не замыкалі. Такі парадак прыдумаў камендант. Ад каго зачыняцца? Ці мала чым можна займацца, калі дзверы замкнёныя?! Ключы выдавалі толькі па выхадных. І ўсе да гэтага адразу прызвычаіліся.

— Хлопцы, пачакайце крыху, а раптам дапамога спатрэбіцца, — пачулася з шафы, — пачакайце...

Мы нават не зварухнуліся. Нязручнасць, страх і трывога ахапілі імгненна, і, разгубленыя, стаялі, чакалі чагосьці, калі не горшага, дык вельмі важнага. Папраўдзе, чакалі, чым скончыцца непрадбачаны спектакль.

Артур выглянуў у калідор. Там было пуста і ціха. Ён так і сказаў:

— Там пуста і ціха.

Сказаў так, каб пачуў тое і кудлаты ў шафе. Нам здавалася, што мы незнарок уліплі ў нейкую гісторыю, прычым — непрыемную. І як быццам самі напрасіліся быць яе ўдзельнікамі. Цяпер чакай горшага.

Хвілін праз дзесяць створка шафы марудна расчынілася, і адтуль выйшаў чалавек з тапаром.

— Будзем знаёмы, я Міша Тапор. Дзякуй за дапамогу. Калі яна спатрэбіцца вам, звяртайцеся ў інтэрнат на Металістаў, пакой шэсцьдзесят тры. Міша Тапор...

— Гэта Эдзік, — сумеўшыся, знаёміў нас Артур, — гэта — я, Артур. А гэта Жора з вёскі Лугавая.

— Амаль землякі, — усміхнуўся Міша Тапор. — Я пайшоў.

У нашым студэнцкім жыцці штосьці падобнае не здаралася. З'явіўся тады Мішка Тапор ды тут жа знік. Але яго з'яўленне і адыход з тапаром племя апачы пакінулі след у нашай памяці. Усе наступныя дні ў інтэрнаце толькі і казалі пра слаўнага Мішку. Быццам бы ён тым самым тапаром засек двух гвалтаўнікоў, што напалі на безабаронную студэнтку... Перамог іх і вызваліў дзяўчанё. Вось зараз і палююць за ім сябры тых гвалтаўнікоў, каб адпомсціць. Галоўнае — выратаваў герой зусім незнаёмую дзяўчыну. Быў нейкі гонар, што наш пакой меў хоць нейкае дачыненне да тых падзей. А яны, між іншым, паўтараліся, мелі свой працяг. І нязменным героем быў той жа Міша Тапор. Гэта даносілі да нас чуткі.



Як ні стараліся заставацца збоку ад усялякіх дробных разборак паміж мясцовым і прыезджым людам, нічога не атрымлівалася. За гэты час, а ішоў ужо трэці год нашага гарадскога жыцця, мы адчулі сябе настолькі трывала, што ў нас ужо з'явіліся амбіцыі. Але правілы паводзін, якія прыдумаў камендант, парушаць было небяспечна. Мы маглі з трэскам вылецець у любую хвіліну ў межы сваёй вёскі. Таму ў інтэрнаце панавалі мір і спакой. Адзінае, што не маглі дазволіць, — пранікненне чужых кавалераў да нашых дзяўчат. За сваіх стаялі гарой, так ужо склалася.

І вось справа дайшла да сур'ёзнага канфлікту. Пагражала бойка. Самы звычайны мардабой. З крывёй, але без усялякіх там нажоў, шворанаў. Гэта быў час сумленных боек. Ішлі высвятляць адносіны, і ніхто не збіраўся перасягаць мяжу дапушчальнага. У каманду мсціцаў, ці шукальнікаў справядлівасці, трапіў і наш пакой — Артур, Эдзік і я. Ішлі, як думалася, бараніць свой гонар. Маладосць усё ж брала сваё. Пустка, дзе прызначалася разборка, праглядвалася як з нашага боку, так і з інтэрната на Металістаў. Нашы прыхільнікі размясціліся на даху нашага, а варожы бок — на даху іхняга інтэрната. Мы сышліся з камандай супраціўнікаў на маленькай пляцоўачцы, дзе часта ганялі мяч. Гэта была вайна ганарыстага горада і бескампраміснай вёскі. Але справа не даходзіла да сапраўднай крыўды. Недзе ў глыбіні душы кожны добра разумеў, што месца з'яўлення не дае нам ніякіх прывілей, перавагі аднаго над другім. Жылі мы ў адной краіне і на адной зямлі. Яны — мясцовыя, мы — прыезджыя. Заўтра і мы станем такімі ж гарадскімі. Ды і многія з іх — тыя ж самыя ўчарашнія вясковыя. Калі не яны, дык іх бацькі — дакладна... Але ўбачанае здзівіла і ўразіла.

Паперадзе каманды супраціўнікаў ішоў у сваім доўгім пінжаку і з тапаром ужо нам знаёмы Міша Тапор. Ён тут жа заткнуў сваю зброю за пояс і гучна аб'явіў:

— Хлопцы, ды гэта ж свае людзі. Разборкі не будзе. Вайна выключаецца. Толькі перамір'е. Мы пакідаем поле боя. Нас чакаюць больш важныя справы. Сёння я ўсіх частую. За мной — на ліманад...

Ён абняў ашаломленага Артура, Эдзіка, а пасля і мяне.

Міратворца Міша Тапор выратаваў тады ўсіх нас ад крывавай сутычкі, а яшчэ выгукнуў:

— Яны аднойчы выратавалі мяне ад бандытаў. Дабро за дабро... Гэтага патрабуе справядлівасць.

Указальным пальцам ён ачарціў дах нашага інтэрната, а потым і інтэрната на Металістаў. Там стаялі нашы паплечнікі.

Мы былі рады, што бойка не адбылася, што ўсіх нас прымірыў Міша Тапор. І самае галоўнае, што ён пазнаў нас. Наш новы знаёмы ў чарговы раз стаўся героем дня. Былі задаволены і яго паплечнікі…

Гэта было так даўно, што, здаецца, зусім не было, бо ўсё засланіў час і больш значныя падзеі. Да нас часта даходзілі чуткі пра новыя подзвігі Мішы Тапара. Чулі, што ён паспяхова скончыў вучобу. А потым знік з поля зроку. Нават з палёгкай падумалі, што наша знаёмства так дабром і скончыцца. Магло быць куды горш... У Мішы Тапара тады была свая слава...

Нядаўна сустрэў Артура. Мы доўга згадвалі нашы студэнцкія гады. Згадалі нават каменданта, якога тады недалюблівалі, але які жадаў нам толькі дабра. Згадалі амаль усіх. І шкадавалі, што грамадства, якое марыў пабудаваць камендант, так і не дабудавалі. Згадалі і Мішу Тапара, які аднойчы напалохаў нас, а потым выратаваў ад бойкі.

— Ты ведаеш, у мяне ёсць ідэя. Давай наведаем Мішу Тапара! — прапанаваў нечакана Артур.

Гэта была самая цікавая ідэя Артура, які цяпер працаваў дырэктарам школы. А я памятаў яшчэ яго старыя звычкі, якія не ўсе і сёння ўхваляю.

— А дзе ж зараз Міша? Дзе яго шукаць?

— Міша Тапор кіраўнік вялікага прадпрыемства. Паспяховага і багатага... Ён перамагаў усюды і заўсёды, ён малайчына. Зрэшты, усё пасля, не спяшайся. У жыцці здараюцца падзеі, якія не паддаюцца вытлумачэнню, таму што непрадказальныя і… незвычайна простыя. Міша Тапор унікальны архітэктар свайго лёсу. Усё астатняе пасля, мой дарагі сябар. У мяне для Мішы ёсць выдатны падарунак, пабачыш. Ты павінен памятаць, калісьці ён сказаў, што мы з ім суседзі...

Тады ж я пачуў ад сябра і сумнае: Эдзіка нашага больш няма. Ён стаўся ахвярай міжнацыянальнага канфлікту, так і не ўбачыў, як разарвалі на кавалкі нашу вялізную краіну.

Мы селі ў Артураву машыну, і ён павёз мяне да Мішы Тапара, перад тым патэлефанаваўшы яму.

Той сустрэў нас шчыра, з добрай усмешкай. Артур дастаў падарунак. Гэта была па-мастацку аздобленая копія тапара індзейцаў апачы. Бляску сувеніру дадаваў і прыгожы футарал.

Міша Тапор ад нечаканасці ледзьве не прысеў.

— Мае дарагія, — сказаў ён, — я ў даўгу перад вамі.

Артур прызнаўся, што нядаўна быў у далёкім замежжы, і яму спадабаўся гэты тапор, бо ён даўно памятаў пра першую сустрэчу з Мішам.

Міша Тапор паклікаў нас да вялізнага стала, які, відаць, прывык да такіх жа вялікіх нарад-пасяджэнняў, а сам сеў у сваё начальніцкае крэсла. Адчыніў шуфляду стала і выцягнуў загадкавы і суровы тапор нашай першай сустрэчы, паклаў яго на стол. Гэта было так нечакана, што мы разгубіліся...

— А зараз пра маю віну перад вамі. Даруйце, сябры, мала ўжо сведак тых далёкіх дзён. Добра, што вы тут. А гэта той тапор, які быў са мною ўсе гэтыя гады. Вазьміце яго ў рукі і ўважліва пагледзіце. Ён таксама сувенірны. Яго падаравалі майму бацьку на фестывалі ў сталіцы. Нейкі госць ахвяраваў, сказаўшы, што ім можна абараняць сваю свабоду. Ніколі і нідзе гэты тапор не служыў злоснай задуме. Вось і я выкарыстоўваў яго, падстрахоўваючы сваю свабоду і незалежнасць. І ён мне дапамагаў! Тая наша першая сустрэча была чарговай маёй прыдумкай, выкананнем той ролі, якую я іграў на сцэне свайго маладога жыцця неадночы. Я сам стварыў міф пра сябе. І потым зрабіў выснову, што для дасягнення прыстойнай і ўдзячнай мэты спосабаў існуе даволі шмат. Я дасягнуў усяго, пра што марыў, але без крыміналу. Я іграў, а значыць, і тварыў, і гэтым быў задаволены. Магчыма, я змог бы стаць нядрэнным артыстам, але мне трэба было выконваць сваё абяцанне, якое я даваў маім бабулі і дзеду, маці і бацьку. Я абяцаў ім, што калі-небудзь абавязкова вярнуся ў нашу Богам забытую вёску — са святлом і па харошай дарозе, што ў нас будзе цудоўная школа, клуб, магазін... І ў мяне ўсё атрымалася. Мой сцэнарый — гэта добра прадуманая жыццёвая рэклама. Ніхто тады не думаў пра рэкламу. У ёй не было патрэбы. А я ўдала рэкламаваў свой вобраз. Вобраз Мішы Тапара. Ён і цяпер, у гэты няпросты час, працуе на мяне. Мае нядобразычліўцы шукаюць цёмныя плямы ў маім мінулым. Іх не было... Толькі вось тапор і ёсць... Праўда, дзесьці мясцінамі патрэскаўся. Ён жа таксама сувенірны. А наогул дзякуй вам, што тады схавалі мяне ў шафе. Я да гэтага часу памятаю вашы спалоханыя твары. Даруйце, хлопцы...

Я ўзяў у рукі тапорык і падумаў сваё. Некалі я не зайздросціў Мішу, а зараз... У джунглях жыццёвых праблем кожны мусіць прасякаць сабе шлях сам. Трэба мець свой тапор, хай і сувенірны…

Потым, ужо пасля сустрэчы, я падумаў: наш супярэчлівы свет выхоўвае перакананне, што тапор і кроў, абрэз і куля, вырашаюць усё. А выходзіць — не. І было неяк нязвыкла, што Міша Тапор жыў другім жыццём, не тым, пра якое, нам здавалася, мы ведалі...

**З курдскай.**

**Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ**

# МУДРАЕ, КРЫНІЧНАЕ…

**На вершах айчыннага паэта Івана Муравейкі, якія нядаўна адсвяткаваў 95-годдзе, вырасла не адно пакаленне школьнікаў. За плячыма майстра паэтычнага пяра — франтавыя дарогі Вялікай Айчыннай вайны, праца ў дывізіённай газеце, пазней — у армейскай «На защиту Родины». А яшчэ — амаль чатыры дзесяцігоддзі працы ў рэдакцыі любанскай раённай газеты «Кліч Радзімы» (цяпер «Голас Любаншчыны»). Іван Андрэевіч — кавалер чатырох ордэнаў: двух — Айчыннай вайны І ступені, ордэна Айчыннай вайны ІІ ступені ды ордэна Чырвонай Зоркі.**

Аднак у творцы не толькі франтавыя ўзнагароды. Іван Муравейка — ганаровы грамадзянін Любані, заслужаны работнік культуры БССР, выдатнік друку, першы лаўрэат прэміі Васіля Віткі, літаратурнай прэміі «Залаты Купідон», уладальнік медаля Францыска Скарыны. У 1964 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы Саюза пісьменнікаў СССР (членам гэтай творчай арганізацыі стаў яшчэ ў 1953-м). А творчы шлях пачаў з паэтычнай публікацыі ў газеце «Піянер Беларусі» ў 1936-м (з 1993 года — газета «Раніца»).

У творчым арсенале юбіляра — больш як 30 зборнікаў паэзіі, дзе нямала радкоў прысвечана баявым таварышам і пякельнаму шляху да Перамогі. Першая яго кніга — «Песня над палямі» — пабачыла свет у далёкім 1955 годзе. Аднак найбольш яскрава талент паэта праявіўся ў вершах для дзяцей, хоць у кнізе «Прынёс з вайны», што выйшла да сямідзясятага дня народзінаў паэта ў выдавецтве «Юнацтва», змешчаны і франтавыя замалёўкі, і ўспаміны, і гумарэскі... Сярод іншых выданняў — «Ручаінкі», «Пра работу і ляноту», «Дружная сямейка», «Сняжынкі-смяшынкі», «Мы таксама падрасцём», «Я прыдумаў казку» ды іншыя. Не менш цікавы постсавецкі перыяд творчасці, бо натхненне не пакідае паэта і сёння. Як не пакідала дзесяць гадоў таму, калі ён стварыў кнігу «Вадзіца з крыніцы», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У назве зборніка ўвасоблены вобраз-сімвал: вадзіца з крыніцы — гэта тыя жыватворныя часцінкі мудрасці, якія дзіця ўбірае з наваколля, пераймае ад бацькоў, бабуль і дзядуляў.




А дзе ж тая крыніца? Ды вось яна — у кнізе, у аднайменным вершы:

*Заўсёды бруіцца*
*І кліча напіцца*
*Лясная крыніца —*
*Жывая вадзіца.*

Натхняюць Івана Муравейку і іншыя вобразы. У вершы «Якога колеру водар?» паэт разважае:

*У кветкі чырвонай —*
*Водар чырвоны.*
*У кветкі блакітнай —*
*Водар блакітны.*
*У кветкі бялюткай —*
*Водар бялюткі.*
*У нашае ружы —*
*Водар ружовы…*

Не чужое Івану Андрэевічу пачуццё гумару, якое вельмі вабіць юных чытачоў. Праз свае вершы паэт кантактуе з дзецьмі на добра зразумелай ім мове, захапляе паэтычным словам, ператварае чытанне ў займальную гульню. Напрыклад, у кнізе «Растуць дзеці» сабраны не толькі вершы, але і апавяданні, казкі, загадкі. Творца ўмела карыстаецца мастацкімі сродкамі, дапамагае дзіцяці як мага глыбей зазірнуць у нетры навакольнага свету, каб спазнаць яго таямніцы.

*У бары раслі дубы.*
*Ля дубоў жылі грыбы:*
*Грыб вялікі — грыбны тата,*
*І малыя — грыбяняты.*

Шмат каму гэтыя радкі знаёмыя яшчэ са школьнай лаўкі. Дык вось яна, паэзія Івана Муравейкі: яскравая, павучальная, запамінальная. І — чыстая. Як крынічная вада, як лясное паветра, прасякнутае пахамі хвоі, грыбоў і дажджу. Творца малюе чарадзейным пэндзлем, напоўніцу выкарыстоўваючы ў сваёй лірыцы вытанчаную палітру вобразаў ды слоў. І растуць дзеці. І бруіць крыніца. Крыніца пачуццяў Паэта.

**Яна ЯВІЧ**

# Святло ды свет Вялікага

**«Дарагія сябры! Пабываць у Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь — гэта сапраўднае свята. Тут заўсёды пануе дух мастацтва — спеваў, танцаў, музыкі...» — так пачынае сваю прадмову да кнігі «Свет Вялікага тэатра» генеральны дырэктар гэтай выключна важнай, я сказаў бы, стратэгічнай для беларускай культуры ўстановы Уладзімір Грыдзюшка. Аўтар зборніка нарысаў — Анастасія Радзікевіч. Кніга шмат у чым нечаканая.**

Публіцыстычны вектар, сарыентаванасць часопіса «Вясёлка» на сацыяльныя, інфармацыйныя зацікаўленні свайго чытача ў апошні час дастаткова заўважныя. І ўсё ж кніжнае выданне, пра якое мы пачынаем гаворку, — як першая ластаўка такога роду ў праекце «Бібліятэка часопіса "Вясёлка"» (а серыя называецца «Скарбы Беларусі»). Анастасія Радзікевіч паспрабавала не проста намаляваць усімі магчымымі публіцыстычнымі фарбамі, вобразамі партрэт тэатра оперы і балета яна здолела выбудаваць роўны дыялог на тэму з зусім юным чытачом. З самага пачатку расповеду ўсе, хто адкрые кнігу, уключаючца ў гульню-падарожжа, разам з аўтарам адкрываюць новае і раней нязведанае. Кніга — гэта першы ўрок юнага тэатрала. Мне на памяць адразу прыйшлі ў нечым падобныя імкненні расійскіх выдаўцоў (ці тады — яшчэ савецкіх выдаўцоў), якія праз энцыклапедычны даведнік юнага тэатразнаўцы ці тэатрала імкнуліся данесці многія важныя рэчы, звесткі. Данесці тое, без ведання чаго не варта і хадзіць у тэатр, не варта напружвацца і слухаць оперу альбо глядзець балет.

Даведаліся пра афішу, набылі білет, а пасля... А пасля пачынаецца самае цікавае. Ад старонкі да старонкі чытач мае магчымасць адкрыць розныя таямніцы тэатральнага жыцця. Анастасія Радзікевіч займальна расказвае пра грымёраў, знаёміць з сакрэтамі пераўтварэння звычайных з выгляду людзей у легендарных персанажаў... Дазволю сабе працытаваць такі дыялог з аднаго нарыса:

«— Зараз і ты даведаўся, чаму столькі часу патрэбна акцёру. Каб выйсці на сцэну ў вобразе Ваўка, напрыклад.

— Цяпер я думаю пра тое, як змогуць грымёры так хутка справіцца і падрыхтаваць траіх артыстаў!

— Акцёраў падрыхтуюць да выхаду на сцэну за адну гадзіну. Адзін грымёр зробіць макіяж двум акцёрам (30 + 30 = 60 хвілін), а другі грымёр зробіць макіяж трэцяму і ўсіх прычэша (30 + 10 + 10 + 10 = 60 хвілін).

— Вось што значыць прафесіяналы!»

Пазнавальнасць, якую Анастасія Радзікевіч выкладае з элементамі гульні, калі спрабуе зазірнуць у дзіцячую псіхалогію, вылучае кнігу сярод шмат якой даведачнай літаратуры. Лёгкі аповед, добрая мова, выключнае веданне многіх і многіх дэталяў тэатральнага жыцця па-добраму ўражвае. Нагадаем: усе матэрыялы, нарысы, уключаныя ў кнігу, у свой час друкаваліся на старонках часопіса «Вясёлка», дазвалялі чытачам з нумара ў нумар адкрываць тэатр, зазіраць унутр, разглядаць усю «кухню» падрыхтоўкі цікавага, прыцягальнага дзейства. А сабраныя зараз у кнігу асобныя тэксты прыцягваюць грунтоўным, цэласным партрэтам тэатральнага жыцця. Атрымалася своеасаблівая дакументальная аповесць пра Вялікі тэатр.

Кніга Анастасіі Радзікевіч адкрыла цэлы шэраг тэматычных абсягаў, у якіх маглі б папрацаваць беларускія дзіцячыя пісьменнікі. Чаму добрай мовай, на цікавых прыкладах не распавесці пра Нацыянальны гістарычны музей Беларусі? Альбо чаму не расказаць пра найбольш цікавыя артэфакты, якія знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі? Мне здаецца, што кніг у серыі «Скарбы Беларусі» патрабуюць і філармонія, цырк, а мо яшчэ і якія іншыя ўстановы культуры. Важна толькі выбраць адпаведную інтанацыю для размовы з юным чытачом. У Анастасіі Радзікевіч гэта атрымалася.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Адчуць радок і вобраз

**Напрыканцы верасня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы беларускі фотамастак, літаратар Георгій Ліхтаровіч прэзентаваў другі том вершаў пад назвай, сугучнай свайму прозвішчу, — «Ліхтарыкі».**



Першы том пабачыў свет яшчэ ў 2005 годзе ў сталічным выдавецтве «Юніпак» і атрымаў шмат станоўчых водгукаў. Таму цыкл вершаў творца вырашыў працягнуць. Другі том «Ліхтарыкаў» выйшаў сёлета ў выдавецтве Зміцера Коласа.

Трыста дваццаць старонак змяшчаюць больш як шэсцьсот паэтычных мініяцюр. Чатырохрадкоўі Георгія Ліхтаровіча прасякнуты тонкім пачуццём гумару і самаіроніяй, аўтар спрабуе прааналізаваць свой жыццёвы шлях, выказвае стаўленне да таленавітых, знаёмых беларускай публіцы дзеячаў культуры і да важных грамадскіх падзей.

Над другім томам «Ліхтарыкаў» творца працаваў сумесна з вядомым беларускім графікам Сяргеем Стальмашонкам, які кожную старонку аздобіў малюнкам. Думкі аўтара часам настолькі важкія і метафарычныя, што дзеля таго каб стварыць патрэбную ілюстрацыю, мастаку давялося шмат папрацаваць.

Вершы, як кажа сам Георгій Ліхтаровіч, — нібы кадры фотастужкі. Гэта, можна сказаць, адна з галоўных мэт творцы, каб, прачытаўшы верш, чытач змог уявіць карціну, адчуць глыбіню мастацкага слова, вобраз, закладзены ў вершаваных радках. Георгій Ліхтаровіч упарта даказвае, што яго паэзія афарыстычная, дасканалая па форме і глыбокая па думцы.

Тэма каштоўнасцей, беларускай прыроды пераплятаецца ў адно цэлае і становіцца лейтматывам, які праглядаецца на кожнай старонцы «Ліхтарыкаў».




Тут, зноў жа, сваю справу выконвае любоў да радзімы і практыка фотамастака.

Як пісьменнік Георгій Ліхтаровіч вядомы з 2000 года. Менавіта тады вершы аўтара, якія ён дадаў да ўласных фотаздымкаў, атрымалі станоўчую ацэнку ад Рыгора Барадуліна. Творамі ў галіне фотамастацтва аўтар вядомы даўно. Ён шмат працаваў над фаліянтамі, што прэзентуюць каштоўнасці беларускага мастацтва: «Жывапіс Беларусі XII — XVIII стагоддзяў», «Пластыка Беларусі XII — XVIII стагоддзяў», «Повязь часоў — беларускі ручнік», «Драўлянае дойлідства Палесся» ды іншыя. Магчыма, адлюстраванне прыгажосці ў літаратуры — гэта вынік натхнення родным краем падчас шматлікіх фотавандровак.

**Вікторыя АСКЕРА, фота аўтара**

# Мікракосмас мастацтва: новае адчуванне

***Адзін з самых каларытных прадстаўнікоў беларускага авангарду (успышка якога з'явілася на небасхіле нашай арт-планеты яшчэ ў 1980-я гады) Алесь Родзім выступае за сімбіёз мастацтваў — выяўленчага, музычнага, літаратурнага. Для яго гэта не проста эклектыка, а нараджэнне чагосьці ўнікальнага, незвычайнага. Як прыклад — фестываль «Дах», які зараз праходзіць у прасторы «Верх», і яго частка — выстаўка «Global Warning / Global Warning». Алесь Родзім, рэзідэнт знакамітага артхауса «Tacheles» у Берліне (у яго сценах збіраліся творчыя людзі з усяго свету), ведае, што такое быць вядомым на Захадзе (і як гэта зрабіць). Яго карціна «Нон-стоп панарама» — пра чалавека, які трапляе ў розныя жыццёвыя калізіі, — заваявала сэрцы немцаў так моцна, што ён застаўся дзякуючы ёй у Берліне на цэлых 13 гадоў. Майстар разважае пра прызначэнне мастака, паралельна раскладваючы «мазаіку» чалавечага існавання і вострых праблем у нашым мастацтве.***

## БУДУЧЫНЯ З МАТЭРЫІ МІНУЛАГА

Нягледзячы на берлінскую «прапіску», Алесь Родзім застаецца мастаком беларускім. Шмат увагі надае ў сваёй творчасці нашай гісторыі. Разам са Зміцерам Юркевічам (з якім ён і заснаўваў калісьці фестываль «Дах») даследуе жыццё Тадэвуша Рэйтана, дэпутата Навагрудскага ваяводства, аднаго з тых, хто выступаў у абарону Беларусі пры падзелах Вялікага Княства Літоўскага, увогуле супраць драбнення дзяржавы.

Творца, які шмат падарожнічаў і бачыў, а значыць, можа параўнаць і паразважаць, лічыць, што Беларусь упісана ў сусветны мастацкі кантэкст, але гэты «запіс» не абнаўляецца. Як помнік, усім вядомы ў горадзе, але якому патрэбна рэстаўрацыя, другое жыццё, новае дыханне.

«У беларускага мастацтва ёсць трывалы падмурак. Папярэднікі сучаснай кагорты мастакоў, у ліку якіх Марк Шагал і Хаім Суцін, заявілі пра Беларусь так гучна і выразна, што іх імёны да гэтага часу ствараюць імідж нашай краіны. Шагал наогул падняў цэлую хвалю толькі за кошт уласнага таленту, зацятасці і высілкаў. Дзякуючы Суціну даведаліся, што гэта за мястэчка такое — Смілавічы», — кажа Алесь Родзім.

Цяпер крыху іншы час: правілы гульні на арт-рынку змяніліся. Канкурэнцыя большая, тэхналогіі рвуцца наперад, спаборнічаюць побач з класічнымі жанрамі. Каб адпавядаць, трэба больш: сіл, часу, грошай. На апошнім аргуменце ўсё і «спыняецца».

## КУДЫ РУХАЦЦА?

Але з вядомасцю новых беларускіх імёнаў у Еўропе, па словах мастака, цяпер праблемы. Не таму, што іх няма: з Акадэміі мастацтваў выходзяць цэлыя шэрагі таленавітых жывапісцаў, графікаў, скульптараў. Вельмі моцных, якія ўмеюць прыцягнуць увагу да сябе і, адпаведна, да радзімы. Справа ў тым, што мастацкая «палітыка» Еўропы няпростая, як лабірынты Борхеса. Па-першае, многія выстаўкі нашых майстроў ладзяцца ў невялікіх галерэях: гэтага недастаткова для магутнага штуршка, выбуху, які прывядзе да вядомасці.

«Мне проста пашанцавала калісьці арганізаваць буйную персанальную выстаўку ў Берліне, дзе я змог паказаць адразу каля ста работ, а потым знайшоў сяброў і знаёмых у мастацкай прасторы Берліна», — дзеліцца Алесь Родзім.

Што нам рабіць далей, каб усё ж такі шчыльней упісацца ў творчы еўрапейскі кантэкст? Спадзявацца на тое, што павінен прайсці час (людзі цяпер больш занятыя матэрыяльнымі пытаннямі, чым духоўнымі, на ўсё воля эпохі эканамічнага крызісу). Але пры гэтым быць больш актыўнымі. А актыўнасць павінна ісці не толькі ад мастакоў, але і тых структур, у якіх ёсць грошы. Ад банкаў, напрыклад. Беларускае мастацтва тармозіцца з-за непакрытых патрэб яго вытворцаў.

## РУХ ІНІЦЫЯТЫЎ

«Восеньскі салон, які нядаўна адкрываўся ў Мінску, — адна з самых выдатных культурных ініцыятыў у нашай краіне. Вось бы яшчэ ён праходзіў хоць бы раз на год, а не на два гады. Беларускім мастакам наогул патрэбна матэрыяльная падтрымка: ад спонсарскіх арганізацый, дзяржструктур. Бо што атрымліваецца? Каб зрабіць выстаўку, трэба перавезці экспазіцыю, аформіць яе, купіўшы рамы або шкло, развесіць, аплаціць арэнду плошчы. Выстаўка праходзіць — карціны ўвозяць. І ўсё», — разважае Алесь Родзім.

Які толк мастаку ад гэтага? Пару дзясяткаў наведвальнікаў і пасты ў сацсетках — гэта выдатна. Але трэба тварыць далей, а для гэтага — купляць палотны, фарбы ды іншыя матэрыялы. А калі гаворка ідзе, напрыклад, пра арганізацыю відэаінсталяцый, запрашэнне музыкаў, арганізацыю перформансаў ды іншыя спосабы пашырэння праграмы свайго вернісажу? Праблематычна. Асабліва для юных талентаў.

«У Еўропе мастакі атрымліваюць гранты — і могуць тварыць спакойна. Улады вельмі падтрымліваюць свае імёны. Таму любому прадстаўніку з іншай краіны прабіцца складана. У прыярытэце заўсёды будзе нацыянальнае: Прага гэта або Парыж. Ды і арт-ландшафт пранасычаны. Важны яшчэ і абмен: яны да нас, мы да іх. Такое ўзаемаўзбагачэнне. Зараз у Мінску гэтая практыка добра працуе ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў», — узгадвае мастак.

## АРТ-ДУХОЎНАСЦЬ І ЦЭННІКІ

У Берліне, дзе Алесь Родзім пражыў больш за дзесяць гадоў, арт-падзеі адбываюцца кожны дзень. «У Мінску іх таксама ў апошнія гады шмат, але недастаткова выставак у буйным фармаце, не хапае мадэрнізацыі прастор, якія ўжо існуюць, такіх як Палац мастацтваў. Састарэлае ўспрыманне застаецца і ў афармленні некаторых экспазіцый. У нас могуць напісаць: «выстаўка-продаж карцін маладых мастакоў». Што падумае абывацель? «О, чарговы кірмаш, напэўна, дорага, не пайду». А калі і зойдзе: да палотнаў, якія адносяцца да высокага, духоўнага і наогул, можа, не маюць цаны, «клапатліва» прымацаваныя цэннікі. Як на базары. Гэта разбурае аўру твораў. Чаму б не зрабіць проста прайс-лісты і раздаваць іх усім зацікаўленым? Вось у Еўропе такога няма. Мастацтва там заўсёды пад арэолам таямнічасці», — разважае Алесь Родзім.



Алесь Родзім.



## ПОШУКІ СЭНСАЎ

Карціны самога мастака і яго філасофія сугучныя. Галоўная мэта — уважлівае даследаванне свету, разуменне таго, што табе дадзена ўніверсальная мова, якая звязвае і ўвасабляе мужчынскі і жаночы пачаткі, жыццё і смерць, каханне і нянавісць... Нервамі, а не скурай, успрымае сапраўдны майстар наваколле — напрамую, праз рэцэптары, нараджаецца варты твор. Гаворачы пра эклектыку ў сучаснай беларускай арт-прасторы, Алесь Родзім адзначыў, што яна і павінна быць, бо шмат мастакоў з розным бачаннем, гэта нармальна. Але ёсць адна тэндэнцыя: нараджэнне тэхнічна выверанага мастацтва, звязанага з найноўшымі тэхналогіямі. Так, усё часцей у сталіцы з'яўляюцца відэаінсталяцыі, жывыя скульптуры, галаграфічныя кампазіцыі... Праўда, на гэтыя «фішкі» таксама патрэбныя сродкі.

## ВЫКІД ЭНЕРГІІ

«Усе мы — маленькія атамы ў гэтым вялізным свеце. Кожны з'яўляецца часткай соцыуму, ніхто не існуе па-за ўзаемаадносінамі з іншымі людзьмі. Мне цікава даследаваць у сваёй творчасці менавіта гэтыя, міжасобасныя, кантакты. Прычым нават у больш глабальным сэнсе — паміж нацыямі, дзяржавамі. Часам я разглядаю чалавека як частку космасу, які жыве па прадпісаннях "звыш"».

Пра свае планы Алесь Родзім казаць не любіць: каб не напалохаць магію. Лёсу або ўдачы. Але ў яго заўсёды ў запасе шмат ідэй, увасобленых у карцінах. Іх трактоўка — асабістая справа кожнага гледача. Галоўнае, што эмацыянальны імпульс, пасыл заўсёды магутны.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Ад пачатку



*Вікторыя Несцяровіч «Святы», 2012 г.*

Наколькі сёння праўдзівае меркаванне пра тое, што творчая моладзь, якая толькі-толькі ступае на прыступкі мастацкай справы, стварае простыя і звыклыя воку арт-аб'екты, творы? Разважаць можна доўга. Але калі вы завітаеце ў Мастацкую галерэю «Універсітэт культуры» на выстаўку дыпломных работ «Крокі да майстэрства» навучэнцаў мастацкага аддзялення Магілёўскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, то адказу доўга шукаць не давядзецца: прадстаўленыя ў экспазіцыі творы даказваюць, што беларуская творчая моладзь здольная раскрываць важныя грамадскія тэмы і папулярызаваць нацыянальную культуру.

Усе чатыры залы галерэі ўпрыгожаны аўтарскімі кампазіцыямі і мастацкімі аб'ектамі. Нельга зрабіць крок, каб што-небудзь не зачапіла ўвагу. На адзін квадратны метр — больш як пяць экспанатаў, і ўсе прадстаўляюць розныя творчыя кірункі. Ёсць аўтары, якія ўзнімаюць тэму народных святаў на Беларусі. Менавіта працэсу святкавання прысвечана серыя работ у тэхніцы габеленавага ткацтва Алесі Радзюк, якая перад стварэннем мастацкіх кампазіцый вывучала традыцыйныя асаблівасці, цікавілася арнаментамі, іх прыналежнасцю да розных рэгіёнаў Беларусі. Выкарыстоўваючы такія сімвалы, як велікодны куліч альбо галінка вярбы, аўтар сцвярджае, што народныя святы — не перажыткі часу, а традыцыя, якую людзі памятаюць і шануюць у сваіх дамах.

Уражвае дэкаратыўная кампазіцыя «Спадчына» Андрэя Шайкова. Мастак у тэхніцы керамікі зрабіў выявы трох цэркваў і трох сабораў. Кожны з будынкаў знаходзіцца на тэрыторыі аднаго з абласных гарадоў. Гэтыя шэсць мастацкіх аб'ектаў творца аб'яднаў у адну кампазіцыю. У выніку твор прадстаўляе беларускія абласныя гарады не толькі з боку рэлігійнага, але і архітэктурнага.

Яшчэ адна кампазіцыя ў тэхніцы керамікі — «Белавежская пушча» — належыць Аляксандру Чэрнікаву, які дэманструе пушчу не праз пейзажны вобраз, а праз выявы яе насельнікаў. Тут, канечне, не абышлося без зубра, але ж ёсць і шмат іншых прадстаўнікоў нацыянальнага парку.

Шмат мастацкіх твораў выпускнікі прысвяцілі тэме старажытных замкаў на Беларусі. Ёсць карціны з дрэва, керамічныя аб'екты, творы, выкананыя ў тэхніцы баціка. Замкі паказаныя максімальна набліжанымі да рэалістычнага выгляду старажытных пабудоў.

Калі ёсць веды пра тое, як жылі продкі, што шанавалі, як будавалі жыццё, побыт, гаспадарку, то маладое мастацтва здолее захаваць важны гістарычны пласт для наступных пакаленняў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ — ВЫСОКАЙ ПРОБЫ

Заканчэнне. Пачатак у № 42.



Сцэна са спектакля «Дзяды».

## БЕЗ ПРАВАКАЦЫІ

У праграму форуму «ТЭАРТ» быў уключаны бязрадасны спавядальны аповед пра жыццё простай сям'і ў беларускай глыбінцы — спектакль «Опіум». П'еса Віталя Каралёва, рэжысёр Аляксандр Марчанка, графічна выразная сцэнаграфія Андрэя Жыгура. Звычайныя беларускія рэаліі напоўнены пранізлівым пошукам сэнсу жыцця, беспадстаўнымі агрэсіяй і патрэбай у праўдзе, якая адкрывае вочы і душу. Усе пісалі, што «Опіум» — першы спектакль, створаны з дапамогай краўдфандынгавай платформы «Вулей» на народныя грошы. Такога яшчэ сапраўды не было. Важна іншае: драматург, рэжысёр, мастак з акцёрамі розных тэатраў — аднадумцамі — аб'ядналіся, каб задаць сумленныя пытанні пра наша жыццё і паспрабаваць на іх адказаць.

Так, свет перажывае сёння час, які замарозіў многія чалавечыя каштоўнасці. Дзе праўда, дзе хлусня, дзе дабро, дзе зло? Дарагі глядач, думай пра гэта. Значыць, не ўсё страчана і тэатр яшчэ можа заставацца ўладаром дум.

Пра лёсы людзей савецкага часу, якія не надта ўпісаныя ў сённяшні дзень, распавядаюць маналогі Святланы Алексіевіч «Час сэканд хэнд» і п'еса ўкраінскай пісьменніцы Наталлі Варажбіт «Саша, вынесі смецце». Гэта жаночыя гісторыі пра тое, як выпраўляць мужчын, чакаць іх, аплакваць. Тут мужчынскія гісторыі: як людзям, выхаваным савецкім часам, асвоіць законы капіталізму. Змірыцца? Пратэставаць?

У палкоўніка была адна таемная слабасць: ён любіў карамелькі. Кажуць, што мужчыны, якія любяць салодкае, не бываюць злымі і жорсткімі. Палкоўнік Саша любіў таксама і горкае: папіваў як усе. Гэтыя злапомныя карамелькі звязалі рэальнае і містычнае. Саша памёр ад інфаркту. Яго ўжо няма ў гэтым жыцці. Ён ёсць, быў і будзе ў жыцці тых, хто яго памятае — жонкі і дачкі. А пакуль памятаюць, ён будзе ўвесь час прысутнічаць на сцэне, слухаючы размовы любімых... Заадно грызці карамелькі.

У гэтым дзівацтве спектакля «Саша, вынесі смецце», які стварыў Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр, водгаласы паганскіх абрадаў, калі душы памерлых знаходзяцца дзесьці побач і гатовыя дапамагчы ў цяжкую хвіліну. У п'есе ўкраінскай пісьменніцы Наталлі Варажбіт Саша дапамагчы не можа. У нашым жыцці мы не верым паганскім рытуалам, хоць і трымаемся іх. Саша як роўны сядзіць з усімі за сталом на ўласных памінках. Праз год на магілках выпівае патрэбную чарку. Яшчэ праз год з'яўляецца да жонкі і дачкі ці то ва ўявах, ці то ва ўспамінах, патрабуючы згоды зноў вярнуцца ў іх жыццё. Згоды не атрымаў: тыя, што засталіся, навучыліся жыць без тых, каго пахавалі.

Моцна стаіць на нагах фактычны лідар сям'і — жонка Кацярына ў выкананні Наталлі Анішчанка. Гэта моцны славянскі характар жанчыны, якая «каня на скаку спыніць». На такіх плячах і лёс сям'і, і лёс краіны. Дакладныя бытавыя падрабязнасці паводзін — усяго толькі абавязкі перад іншымі. У дадзеным выпадку адказнасць перад дачкой. Гераіня актрысы Любові Пукіта — вельмі тыповая сучасная маладая істота з ліку несамастойных. Напэўна, няўдалае асабістае жыццё. Звычка моцна спадзявацца на дапамогу бацькоў.

Палкоўнік акцёра Аляксандра Пашкевіча, начальніка кафедры Ваеннай акадэміі, мала нагадвае жорсткага ваяку. І ўжо дакладна не ўмее гуляць мускуламі. Звычайны лёс з рэдкімі і банальнымі радасцямі. Акцёру досыць цяжка паказаць сябе ў такім матэрыяле, тым больш што і сама назва спектакля зніжае магчымы пафас. Гэта да яго звяртаюцца: «Саша, вынесі смецце». Абавязак мужчын, якія знаходзяцца пад абцасам. Герой разгублены ў бытавым сэнсе. Падпарадкаванасць ваеннай дысцыпліне пазбаўляе яго пэўнай самастойнасці. Толькі калі пачынаецца вайна, падцягнуты афіцэр нават з таго свету гатовы выканаць прысягу перад Радзімай. Пашкевіч умее іграць людзей, якія ўхіляюцца ад вырашэння пытання. На яго герояў нельга злавацца, таму што яны вельмі абаяльныя. Ім усё даруюць.

А што ж карамелькі? Яны ёсць у вялікай колькасці на памінках. Саша іх з задавальненнем грызе. У другім дзеянні на могілках пакецік з карамелькамі з'явіцца побач з памінальнай чаркай, накрытай хлебам. У трэцім дзеянні Саша наб'е карамелькамі кішэні, не саромеючыся ваеннай формы.

Аповед можа здацца змрочным. Аднак тэатр робіць яго жыццёвым, пранізлівым, жаласлівым і нават у чымсьці смешным. Хоць нявыкананыя абавязкі, не аддадзеныя даўгі грукаюць у сэрца. Гэта заўсёды бывае цяжка: недагаварылі, не распыталі, не паспеў. Потым забываецца: жыццё ўваходзіць у сваю каляіну.

Актуальнасць такога матэрыялу па-свойму вечная. Цяперашняе выцякае з мінулага, пераходзіць у будучыню — сувязь часоў і маральных абавязкаў. І ўсё роўна, што ў мірнае жыццё ўрываецца вайна. Яна яшчэ за сценамі, за мяжой. Але яна, як фантомныя болі, не дае жыць спакойна, легкадумна, бесклапотна, напяваючы шлягер Юрыя Антонава «Белы цеплаход».



Сцэна са спектакля «Крэйцарава саната».

## ТРЭБА ДУМАЦЬ

Мы адвыклі слухаць чужыя думкі і ўслухоўвацца адзін у аднаго. Калі з'яўляецца самадастатковы літаратурны матэрыял, які нельга ператварыць у лёгкі сцэнарый, гэта развязвае рукі рэжысёру для таго, каб паэксперыментаваць з формай. Узнікае вольная інтэрпрэтацыя п'есы. Гэтых варыянтаў можа быць некалькі: традыцыйнае сцэнічнае прачытанне, абноўленая па форме рэдакцыя тэксту, спектакль «па матывах», мастацкая канцэпцыя, якая не мае адносін да аўтара. Рэжысёр Саўлюс Варнас узяўся за цяжкі апавядальны матэрыял «Крэйцаравай санаты» Льва Талстога, магчыма, таму што ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры з'явіўся акцёр, якому амаль усё па сілах. І камедыя, і драма, і трагедыя.

Напісаная 130 гадоў таму «Крэйцарава саната» прапаведуе талстоўскія ідэі аб устрыманні, аскетызме, не надта папулярныя ў наш час. Даўно існуе жыццёвая сітуацыя, у якой людзей цягне на споведзь, — гэта паездка ў цягніку. Пасажыр, у якога цяжка на душы, можа даверыцца незнаёмаму чалавеку.

Магчыма, з такога асабістага досведу нарадзілася ў Льва Талстога аповесць «Крэйцарава саната». Магілёўскі тэатр вырашыў зрабіць спектакль паводле гэтай сумнай гісторыі ў разліку на тое, што ёсць рэжысёр з несуцішнай фантазіяй і таленавіты прывабны артыст. Зоркі сышліся. Літаратурныя вобразы ажылі ў метафізічных і эзатэрычных шуканнях літоўскага рэжысёра Саўлюса Варнаса і ў таленавітай ігры маладога прыгожага акцёра Івана Труса.

Палохала небяспека ўбачыць нудны монаспектакль пра тое, як раўнівы муж забіў сваю невінаватую жонку. Атрымалася зусім іншае: вельмі прыгожае, неардынарнае, яркае відовішча. Галоўны рэжысёр тэатра Саўлюс Варнас стаў інсцэніроўшчыкам, пастаноўшчыкам спектакля і мастаком па святле. Расказаў ён гісторыю пра вечныя ўзаемаадносіны мужчыны і жанчыны, якія альбо паяднаныя каханнем, або не.

Як і ў большасці літоўскіх рэжысёраў, у Варнаса ўсё «не як у жыцці». І заўсёды прысутнасць космасу: то ў выглядзе зорнага неба, то загадкавых рэбусаў, то чорнай бездані, то фантомнага болю звычайнага чалавека.

Варнас — цікавы, мяккі чалавек з трагічным мысленнем. Магчыма, ён свядома простае пераварае ў драму, а драму — у трагедыю. На гэтым шляху рэжысёра цікавіць, як чалавек пачынае ўсведамляць сябе чалавекам, пакутуе ад сумненняў. Гледачоў, якія звыкліся з лёгкімі забавамі, бянтэжыць змрочнасць зместу: шмат смерцяў, песімізму, нават смутку.

Уся літоўская рэжысура прывязаная да найскладанейшых метафар, экспрэсіўнай сімволікі, да асаблівай пластычнай культуры, нечаканых асацыяцый. Яна ігнаруе зразумелыя сюжэты, парушае звыклую логіку паводзін і гэтым вельмі напружвае гледачоў. Душа, якая прывыкла да меладрамы і камедыі, пратэстуе. Чаму рэжысёр выбірае такі матэрыял? Напэўна, таму, што ў падобнай насычанай атмасферы бачныя чалавечыя лёсы.

Рэжысёр і артысты напаўняюць вагонны аповед безнадзейнасцю, адсутнасцю сэнсу і матываў. Іх цікавіць чалавек у складанай парадаксальнай сітуацыі, з якой выйсце ці то ёсць, ці то няма. Талстой не знайшоў фіналу сваёй аповесці. Варнас знайшоў. Скручанага ад болю Познышава суразмоўца накрывае чорным паліто. Утворыцца магільны пагорак.

## СКЛАДАНАСЦІ КАМУНІКАЦЫІ

Асабіста ў мяне спектакль «Дзяды» Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра выклікаў складаныя пачуцці. Створаны пастановачнай брыгадай з Польшчы пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску, ён адразу ж прыцягвае незвычайнай формай, нацэленай на шчыльную камунікацыю з гледачом. Праект прадугледжвае акт калектыўнага даследавання сітуацыі, нібыта гэта нейкі сход на гарадской плошчы, ля ратушы або каля сцен храма. Дзейства адбываецца на сцэне, дзе 90 гледачоў пасаджаны ў круг накшталт цыркавой арэны. Спачатку публіка рассаджвалася ў зале адвольна. Затым выканаўцы спектакля вядуць людзей на сцэну і рассаджваюць на драўляных лавах. Артысты — у цэнтры і за спінай у гледачоў. На блізкай адлегласці яны будуць да іх звяртацца, чапаць за плечы. Існаванне артыстаў у такой камернай прасторы — вялікая рызыка, таму што патрабуе абсалютнай натуральнасці і пазбаўлення ад любых акцёрскіх штампаў. Важна не перастарацца, не перакрычаць. Усё залішняе імгненна становіцца фальшам. Вядома, паэме Адама Міцкевіча вельмі пасуе абрадавая форма. Яна можа зачароўваць. Можа і раздражняць сваёй ненатуральнасцю. На жаль, адбываецца другое. За пастаянным крыкам, збіццём персанажаў, валяннем у гразі, натуралізмам, што даходзяць да паталогіі, знікае сэнс твора. Паэма цалкам самадастатковая. Дай бог пастарацца выразна прадставіць яе сюжэт. Няма неабходнасці ўскладняць арыгінальную літаратурную аснову ўстаўкамі з падзей Другой сусветнай вайны, якія тэкстава ніяк не ўпісваюцца ў гэты доўгі, цяжкі па энергетыцы, праект і не робяць яго актуальным.

У эпоху постмадэрнізму і *contemporary art*, модных цяпер інсталяцый існаванне простага твора пачынае здавацца старамодным. Класіка, прачытаная без правакацыі, эпатажу, расчароўвае «прасунутых» гледачоў. Але не варта забываць, што сучаснае актуальнае мастацтва — гэта толькі невялікая частка сусветнага мастацкага працэсу. І, магчыма, толькі класіка здольная распавесці пра вечнае і сутнаснае, каб пераўтварыцца ў кіраваную міфалагічную прастору (бо цяпер апраўдваецца ўсё, што нармальныя людзі лічаць цынічным, паталагічным, бездухоўным). Тут не дапамогуць ні дызайн, ні касцюм, ні маскі, ні відэапраекцыі. Калі яны і застануцца ў памяці, то наўрад ці адновяць сэнс, закладзены пісьменнікам у слове.

**Таццяна АРЛОВА**

# Урокі Турава




Фота з сямейнага архіва Алены Туравай.

Віктар Тураў і частка айчыннай гісторыі.

**Нават на бальнічным ложку Віктар Тураў працягваў працу над сцэнарыем фільма «Фіеста 45»: хацеў, каб гэта быў геніяльны фільм. Рэжысёр у любой сітуацыі застаецца прафесіяналам. Пра гэта сведчыць кінарэжысёр Алена Турава, якая дзеліцца ўспамінамі пра знакамітага бацьку.**

## ПРА БАЦЬКАВА КІНО

«Да нейкага моманту я не магла ўявіць, як прафесійна зроблены яго фільмы. Напэўна, калі сама пачала займацца гэтым, то заўважыла, разгледзела і зразумела. Тое, як зроблены яго стужкі, мяне ўразіла. У яго фільмах усе доўгія планы, мізансцэны жывуць і дыхаюць. Многія акцёры, якія з ім працавалі, узгадваюць, што гэта быў і дар, і пазіцыя — дабівацца пачуцця "дыхання жыцця". Ён ніколі не гаварыў, як іграць, а даводзіў акцёраў да такога стану, калі яны пачыналі адчуваць сябе героямі: каб было само жыццё, а не ігра персанажа.

Я вельмі люблю яго фільм "Праз могілкі", гэта атмасфера сюррэалістычная, але карціна "Я родам з дзяцінства" мне бліжэй — там маці здымалася, у мяне ёсць асабісты момант дачынення да яе. Пераглядаю стужку настальгічна: яна здымалася, калі я нарадзілася. І мне вельмі падабаецца "Жыццё і смерць дваранiна Чартапханава". Магу адчуваць бацьку як асобу таму, што там вельмі многа з яго ўнутранага тэмпераменту: у стужцы шмат адказаў на пытанне, якім ён быў чалавекам. Я яго ўспрымаю менавіта так: гэта глыбокая, драматычная натура, якая прытрымлівацца сваіх прынцыпаў, нягледзячы на акалічнасці. Бывае, чалавек з чымсьці не можа справіцца, але застаецца адданы сваім ідэалам. У гэтым фільме — славянская душа, калі смех і слёзы, істэрыкі і вяселле на мяжы з трагедыяй.

Бацька любіў фільмы Феліні, італьянскі неарэалізм. Як майстар ён раіў іх паглядзець і мне. Уплыў гэтага кіно бачны і ў стужках "Я родам з дзяцінства", "Праз могілкі". Але ён любіў беларускае. Заўсёды казаў, што літоўцы любяць сваё нацыянальнае кіно, эстонцы — таксама, а мы чамусьці — не. Кустурыца даў дыханне сербскаму кіно. Гэта ўсё ж свой імідж, свая энергетыка. Бацька казаў, што трэба "прабіваць" сваё кіно».

## ПРА КІНААДНОСІНЫ

«Бацька наведваў многа кінафестываляў. Быў выпадак, калі ён з камісіяй прыехаў на фестываль у Філіпіны, а кіраўніком групы быў Сяргей Герасімаў. Узнагародзілі тады фільм Турава "Людзі на балоце", але прозвішча напісалі не яго, а Герасімава. Бацька заўсёды гэту ўзнагароду лічыў самай каштоўнай, казаў, што такога эксклюзіву няма ні ў каго.

Калі Савецкага Саюза не стала, то ў нас не стала і пляцоўкі для падрыхтоўкі кінакадраў: у Беларусі не было такіх устаноў адукацыі. Бацька стаяў ля вытокаў арганізацыі кінафакультэта. Ён дапамагаў ствараць тэатр кінаакцёра: фактычна першы спектакль, "Качынае паляванне" па Вампілаву, што адбыўся ў Доме кіно ў пастаноўцы Валерыя Анісенкі, паказаў, што кінаакцёры таксама могуць працаваць у тэатры і з гэтага можа атрымацца нешта добрае. Так яно і сталася: цяпер гэта папулярны тэатр.

Немагчыма не ўзгадаць пра Высоцкага, бо ён іграў у бацькавых фільмах. Сяброўства з Высоцкім было моцнае, мужчынскае. Уладзімір часам крыўдзіўся на бацьку: той не браў яго на ролі, якія, як здавалася, яму вельмі пасавалі. Напрыклад, на ролю Чартапханава. Сяброўства сяброўствам, але бацька пакідаў за сабой права выбіраць людзей, якіх ён бачыў у сваім фільме. У яго быў жорсткі падыход да акцёраў: нават калі ён зняў ужо частку стужкі, але адчуваў, што нешта не так, мог усё перазняць, як гэта было з "Я родам з дзяцінства". Па ўспамінах усіх, хто працаваў з бацькам, я ведаю, што ён вельмі любіў акцёраў. І яны яму плацілі ўзаемнасцю».

## ПРА ЗАХАПЛЕННІ І ЎРОКІ

«У яго ўся кватэра патанала ў кнігах. Тады гэта было рэальнае багацце, ён прывозіў іх адусюль, але гэта не былі кнігі дзеля кніг — бацька ўсё чытаў, рабіў занатоўкі. У яго было шмат кніг па прафесіі, шмат альбомаў жывапісу. Ён вельмі любіў беларускую літаратуру, гэта адчуваецца па тым, што мы бачым на экране, па тым, што ён здымаў. Як толькі з'явіўся ў публікацыях "Шляхціц Завальня", бацька адразу зняў фільм. Магчыма, ён любіў і іншыя літаратуры, але айчынную — больш за ўсё.

Ён мне заўсёды казаў: «Будзь сама сабой, не хвалюйся». А пасля я пачала заўважаць, што ён гэта ж казаў і сваім акцёрам. Даўжэнка, у якога бацька вучыўся, казаў тое ж самае сваім студэнтам. Гэта галоўны ўрок, які я атрымала ад Турава, — быць самой сабой. Думаю, гэта важна і ў чалавечым плане, і ў рэжысёрскім. І ў плане жыцця — быць, а не здавацца. Калі ты не ведаеш, што рабіць, будзь сабой, паспрабуй адчуць менавіта сябе, а не чыесьці падказкі».

## ПРА АСАБІСТАЕ

«Ён не стараўся мяне моцна выхоўваць, але не хацеў, каб я ішла ў кіно. З аднаго боку, я разумела, што рабіла яго ўражлівым, станавілася яго слабым месцам. Ён ведаў, што такое кіно, таму хацеў мяне аберагчы ад гэтага — казаў, што я не разумею, куды іду, бо свет кіно складаны і жорсткі. Бацька хацеў, каб я была ў першую чаргу шчаслівай жанчынай, а наконт прафесіі нічога не раіў. Але ў мяне была моцная генетыка — бацька-рэжысёр і маці-актрыса, таму вельмі цягнула ў гэты свет, я хацела працаваць у кіно.

У кінематографе бацька мяне не прасоўваў, але яго падтрымку я адчувала: калі студыі, дзе я была асістэнтам рэжысёра, не стала, мне дазволілі зрабіць першае кіно ў якасці рэжысёра. Думаю, не без дапамогі бацькі. Памятаю, калі працавала над першай стужкай, прасіла яго дапамагчы, паглядзець раскадроўкі, а ён не дапамагаў, але і не перашкаджаў — проста сачыў за працэсам без каментарыяў. Калі я з сябрамі запісала музычны альбом, ён казаў, што гэта ўсё глупства. Мяне тады пакіналі на радыё, і жонка бацькі распавядала, што ён ад пачатку і да канца перадачы праседзеў каля радыёпрыёмніка.

Ён не хацеў абмяркоўваць са мной мае стужкі. Канечне, ён іх ведаў, але нічога не гаварыў. Бацька быў ля вытокаў фестывалю "Залаты Віцязь", прывозіў адтуль мае ўзнагароды. Я разумею, што ён маўчаў, але яму было прыемна, што я трымаю гонар нашага прозвішча».

# «Пераможная» рэтраспектыва

**Памяць пра рэжысёра Віктара Турава ў Беларусі захоўваюць вельмі беражліва: у Магілёве імем Турава названа вуліца, а на фасадзе кінатэатра «Радзіма» адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар рэжысёра. Кожны год напрыканцы восені на малой радзіме кінематаграфіста ладзяць «Тураўскую восень», на «Лістападзе» ўручаецца прыз імя Віктара Турава.**

Сёлета памяць рэжысёра ўшануюць і адмысловай рэтраспектывай — 80-годдзе з дня яго нараджэння адзначаць і ў сталічным кінатэатры «Перамога». 26 і 27 кастрычніка там пройдуць спецыяльныя паказы фільмаў беларускага рэжысёра.

У першы дзень рэтраспектывы гледачы пазнаёмяцца са стужкай "Я родам з дзяцінства" — адным з самых вядомых фільмаў, дзе ролі выконвалі Уладзімір Высоцкі, Ніна Ургант ды іншыя таленавітыя акцёры. Стужка, якая ўжо стала сімвалам рэжысёра, распавядзе пра дзяцінства падчас Вялікай Айчыннай. Наступны паказ адбудзецца пад знакам «Высокай крыві»: у фільме зняліся Мікалай Бурляеў, Барыс Няўзораў і іншыя, а сюжэт ўяўляе сабой гісторыю пра жакея Філіпа і яго каня Фаварыта — шчымлівы аповед, пра незвычайнае сяброўства.

# Слова пра майстра

Ён зняў 18 стужак за 32 гады, з фільмам «Праз могілкі» трапіў у сотню лепшых сусветных стужак пра Вялікую Айчынную. Фільмы Турава — энцыклапедыя, гісторыя і натхненне не толькі для тых, з кім побач ён жыў і працаваў, але менавіта яны распавядуць пра рэжысёра ў фільме Сяргея Кацьера «Майстар. Рэжысёр Віктар Тураў», прэм'еру якога падрыхтаваў тэлеканал «Беларусь-3».

Аўтар кажа, што сваё кіно здымаў як даніну павагі. «Я асабіста ведаў Турава, фільмы якога люблю. Але ўвагу да тых, каго любім, мы заўсёды адкладаем на потым, — кажа Сяргей Кацьер. — Я не чакаў, што яго не стане, — думаў, лепшыя фільмы яшчэ наперадзе, чакаў яго наступнай карціны. І мой фільм стаў своеасаблівым вынікам пачуцця віны перад гэтым чалавекам».

Прайсці міма юбілею аднаго з лепшых (калі не лепшага) рэжысёраў у Беларусі было проста немагчыма, лічыць Сяргей Кацьер і ў сваім фільме паказвае Турава як шматгранную асобу, адказваючы на пытанні: адкуль растуць карані яго лепшых фільмаў? чаму яны сталі лепшымі ў яго лёсе? якім ён быў у размовах? што яго хвалявала? што ён любіў і чаго не любіў? Але рэжысёр не ўпэўнены, што атрымалася ў адной стужцы стварыць усеабдымны вобраз вялікага мастака: «Жыццё чалавека заўсёды большае, чым тое, што ён зрабіў, тое, што пра яго кажуць. А кажуць многае. Я паспрабаваў пакінуць нават тыя выказванні, з якімі не згодны».

Аўтар фільма пра Турава ішоў на кампрамісы з сабой, не толькі пакідаючы тое, з чым не згодны, але і адмаўляючыся ад закадравага тэксту, ад многіх каштоўных кадраў, фрагментаў інтэрв'ю, — часам рэзаў па жывым: «Можа, з-за гэтага фільм нешта згубіў, бо тут чалавек мусіць сапраўды ўважліва яго глядзець: вачыма, сэрцам, душой, углядацца ў кадры і ўслухоўвацца ў размовы, адчуваць атмасферу».

Хацелася б спадзявацца, што фільм «Майстар. Рэжысёр Віктар Тураў» стане для гледача адпраўной кропкай, каб пазнаёміцца з рэжысёрам бліжэй. «Галоўнае дасягненне фільма ў тым, што тут слова максімальна дадзена самому Тураву. Гэта вялізная перавага. Віктар Цімафеевіч — адзін з нямногіх рэжысёраў, за творчасцю якога заўсёды сачылі, пакуль ён здымаў. Таму амаль на кожную яго стужку ёсць "фільм пра фільм", дзе сам рэжысёр распавядае, што і чаму зняў, а гэта нашмат даражэй нават за артыкулы крытыкаў, — прызнаецца Сяргей Кацьер. — Яго асоба для нас важная таму ж, чаму каштоўныя Талстой і Дастаеўскі. Думаю, каб у школе быў урок па беларускім кінематографе, то фільмы Турава абавязкова трэба было б паказваць. Ён вельмі добра адлюстраваў у кіно гісторыю Беларусі, гісторыю свайго пакалення, гісторыю людзей, у тым ліку і сваю».

Сяргей Кацьер памятае Віктара Цімафеевіча чалавекам неверагодна захопленым сваёй працай — менавіта гэтага не хапае нашай моладзі. Тураў быў энергічным і ў зносінах, і ў творчасці да такой ступені, што аўтар фільма «Майстар. Рэжысёр Віктар Тураў» часам наўмысна замарудзваў дакументальныя кадры з рэжысёрам: «У яго была шалёная энергетыка, свой рытм, ён быў такі ўзрыўны і заводзіўся на любую тэму. Магчыма, часам ён выглядаў рэзкім у сваіх меркаваннях, але ніколі не абыякавым».

Тураў быў асобай выключнай: купляў усе кнігі, якія толькі мог, прывозіў іх з кожнага падарожжа — яму гэта было важна. Пра свае стужкі рэжысёр казаў, што не зняў і палову таго, што хацелася: жаданне ствараць у яго было велізарнае. Кажуць, так бывае ў сапраўдных майстроў. Сяргей Кацьер адзначае, што ў Турава можна было б павучыцца цікаўнасці да жыцця, кантактнасці і любові да зносін, якая часам пераходзіла ўсе межы: жонка Віктара Цімафеевіча распавядала, што не было вечара, калі б ён не прыводзіў дадому сяброў.

Тураў заўсёды быў адкрыты да людзей, многім дапамагаў, бачыў талент і спрабаваў яго ўзнагародзіць. Акрамя таго, умеў цаніць тых, хто побач. У стужцы Сяргея Кацьера пра рэжысёра будуць гаварыць якраз яны: Уладзімір Гасцюхін, Мікалай Бурляеў, Ніна Ургант, Барыс Няўзораў, родныя і блізкія Турава, якія сёння ўзнагародзяць яго талент. Але ўжо сваімі ўспамінамі.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Супадзенні

## Стракаты свет. Зменлівы. Жывы і прысутны

***Жывы жаўталістай восенню. Прысутны шматгалосай музыкай. З аглядкай на сто гадоў наперад, як прамовіў бы К. Пендарэцкі… З аглядкай і ў будучае, і ў мінулае, як запэўніў бы кемлівы сучаснік.***

***Шматгалосая, шматаблічная, з вільготнымі пазнакамі лістападаўскіх даждожоў на старадаўніх партытурах, музыка прагне гучаць жывымі хваласпевамі, малітвамі дзённымі і вячэрнімі. Гучаць сёння, зараз, гэтым восеньскім днём.***

***Гатовая супасці з чысцінёй срэбных камертонаў сучаснасці, працінаючы гукавымі промнямі стагоддзі, музыка пранізліва набірае вышыню. На тых вышынях — меладычнае суквецце гулкіх гімнаў, чыя няспешная хада стрымліваецца глыбінёй кантрапунктычных басоў, счэпленых з непарушнымі каменнымі плітамі старажытных мурoў.***

***Музыка святкуе сваю прысутнасць між намі. Вітае вершаванымі прынашэннямі і неабдымнай прыгажосці гучаннем, вымкнутым дыханнем зямлі. Святкуе сваю будучыню ў мінулым.***

Мінулае паклікала будучыню і стварыла сапраўднае. Сярэднявечча супала з сучаснасцю. Графічны малюнак у белай цішы. Супадзенне нарадзіла новую музыку. Новыя гімны. Новыя малітвы і звароты. Спявае голасна Лістапад, рыхтуецца заступіць на зямную службу беларускага прадзім'я.

Днём раней, пралятаючы над Англіяй, Лістапад паспеў заўважыць, якім цудоўным чынам менестрэлі (па тамтэйшаму — *minstrel*), ахутаныя таямніцамі старажытных легенд, супалі праз сем стагоддзяў з «*Lacrymae*» («Слёзы») Б. Брытэна — супалі з далёкімі водгаласамі тужліва-выгтанчанай музыкі *minstrel*-яў. Заўважыў, якім чынам Жан Пюсэль (па суседстве геаграфічным і «сярэднявечным») выкарыстаў урокі трычэнта, каб данесці ўласныя ідэі найноўшым чынам. І як «Пульчынела» І. Стравінскага супаў з «Пульчынела» Д. Пергалезі: не сказіўшы ніводнага акцэнту ў агульным ландшафце, выкрыў нікім раней не пачуты патэнцыял прыгажосці, замілавання і пяшчоты.

Але ж на «зямлі пад белымі крыламі» — свае супадзенні. Свае *minstrel-і*. Свае *Paternoster, Gaude Maria*. Свае — «празрыстыя слязіны».

Выбіраю Мінск, вырашыў Лістапад. Верхні горад. Старое месца. Менск, значыць. Выбіраю дзень. Ён будзе адмысловым.

### Я ТУТ

Лістапад сведчыць пра сваё з'яўленне віхурыстым аўтографам з дажджоў і рваных аблокаў. Усё на месцы. Верхні горад. Канцэртная зала. Са мной вецер, які, паводле «Арэапагітыкаў», нясе падабенства і вобраз боскага ўздзеяння: вецер — веснік: «І раптоўна абрынуўся шум з неба, як ад моцнага ветру, і напоўніў увесь дом…».

…Задзімае. Часам змушае туліцца да сцен. Няхай сабе. Духоўнасць ужо нікога не гоніць у Індыю альбо Тыбет. Прыдбаныя каштоўнасці хоць і трашчаць пад пятою муніцыпальнага чаравіка, але вытрымліваюць прыніжэнне і не здаюцца. У чаканні лепшага не бавяць час. Бо тое — залежнасць. Як і спадзяванне.

Пра прыгожае можна разважаць доўга. Лепш — яго ствараць. І прызначыць дзень стварэння. Гэта будзе — 11 лістапада, вырашыў Лістапад. Акурат дзень святога Марціна — прысвятак млынароў (млын — танец вады, зямлі і паветра). Дзень таго самага Марціна, што схаваўся ад злодзеяў у свіране з гусаком, а той выдаў яго сваім гергетаннем. З Марцінавага дня пачынаецца французская зіма. На Марціна мядзведзь кладзецца ў бярлог у беларускім лесе. У Італіі на Марціна дэгустуюць маладое віно. А факельныя шэсці, вогнішчы, забавы і песні складаюць вялікае Марцінавае свята ў Бельгіі і Нідэрландах.

Шэсці… Шэсці могуць адгукнуцца даўнімі містэрыямі, без якіх не абыходзілася ні адно гарадское свята. Гэткімі ж беларускімі (полацкімі) містэрыямі некалі здзівіў сталіцу Масковіі Сімяон Полацкі.

### ШМАТГАЛОСАЕ КАРАЛЕЎСТВА

Сваю эпоху Сярэднявечча і Адраджэння, як і наступны за ёй Класіцызм, гістарычная Беларусь аздабляла замкавымі збудаваннямі, стварэннем прыдворных аркестраў, капэл, запрошанымі прыдворнымі капельмайстрамі і кампазітарамі. Яны, натхнёныя ідэямі сваіх магнатаў, ушаноўвалі музыкай гістарычныя падзеі і сямейныя ўрачыстасці. Музыка захапляла запрошаную публіку, лунала водгаласамі па залах, заставалася ў памяці, звінела струнамі клавесіна і пазней асядала на драўляных паліцах магнацкіх бібліятэк тугімі скруткамі партытур. Каштоўныя рукапісы, падобныя да карцінных галерэй, старанна аздабляліся эмаллю і каштоўнымі камянямі і збіраліся пад скуранымі вокладкамі.

Шматгалосае каралеўства спявала, гучала, стварала, запісвала. Захоўвала! Запрашала і знаходзіла. Тое, што мы шукаем. Чым мы даўно ёсць. Тое, што заўсёды было і ёсць з намі. Як зруйнаваныя навагрудскія сцены. Як псалмы Мікалая Гамулкі, як песні Цыпрыяна Базыліка, як малітва Вацлава з Шаматулаў. Таго самага Вацлава з Шаматулаў, спевака і кампазітара прыдворнай капэлы караля Жыгімонта II Аўгуста, чые чатырохгалосныя матэты двойчы былі надрукаваныя ў далёкім Нюрнбергу і выдадзеныя ў асобным зборніку разам з творамі Жаскіна Дэпрэ і Арланда дзі Ласа.

Бязлітаснае лістападаўскае міжсезонне цешыць сваім шматгалоссем. Гул хвалістага ветру можа падзяліцца на пасмачкі-свісцёлкі і засвірасцець тонкімі сукараткамі. Сцішыцца ў закутах дамоў, завулкаў і раптам загаласіць, узняўшыся вужом да неба двайнымі расчэпленымі актавамі.

А імгненні — працяглыя і падоўжаныя ўласным уяўленнем — здольныя самазапальвацца і свяціць ліхтарамі. Скрозь старыя зруйнаваныя крэўскія, навагрудскія сцены, скрозь бязглуздзіцу і мітусню, скрозь замурзанае сумленне.

### НОВАЯ МУЗЫКА

Новая музыка — своеасаблівае прадчуванне будучыні. Адна з яго магчымасцей і варыянтаў. Лёгкая незавершанасць і няпэўнасць — яе прывілея. Стварэнне не закончылася: здзяйсняецца кожны раз, калі гучыць. Створанае сённяшнім днём разам з яе стваральнікамі, абжывае сабе месца ў адным часавым полі. Будучыня іх пачуе як адзінае цэлае. Як спадчыну ў гістарычнай перспектыве.

Традыцыя — узлётная паласа творцы. Уверх і далей, наперад, паглынаючы спадчынную плынь. Раздзерці гучанне і злучыць яго. Кранучь тонкія шалі паміж далячынню і блізкасцю, набліжэннем і аддаленнем. Запрасіць гасцінна будучыню ў мінулае. Завастрыць дэталь і не страціць аб'ёмнасці агульнага. Выкрыць сэнс цэлага схаванымі сувязямі.

**«Гімны Беларускага Сярэднявечча» Л. Сімаковіч —**

паралель як іншамоўе, сімвалічнасць сярэднявечнага мыслення. Непадзельнае цэлае, сточанае з музычнай ідэі, кантрапункту, тэмбраў, рытмаў. Тонкія абрысы даўгакрылых анёлаў у хвалістых пасмах аблокаў адвольна асядаюць на гарызантальныя выступы сцен, ствараючы лёгкі, пругкі танец…

**«Paternoster» А. Кісялёва —**

няспынная прыгажосць. Невычэрпнасць зместу. Прасталінейнасць як непарушнасць і няўхільнасць сыходу энергіі…



*Жаночы склад Дзяржаўнага камернага хору Беларусі.*

**«Авэ Марыя» В. Капыцько —**

працяг даўніх разважанняў, бясконцасць сузірання чысціні і пяшчоты. Супадзенне. Тоеснасць. Новы лірызм. Чысціня стылю. Новая дынаміка. «*Настройце слых ваш на ўшэсце*» (Ян Златавуст)…

**«Замкавая гара» (Якуб Колас) А. Безенсон —**

мова музычных метафар. Крэўнае мінулае, тагачаснае гучанне жыцця лёгка абуджаецца невялікім намаганнем уяўлення. Кампазітарская арганіка вызначае якасць. Адзінства магчымасцей і іх ўвасабленне…

**Малітва Вацлава з Шамотул —**

разамкнутае, растуленае, непастаянае — завершнасць. Барочную асіметрычнасць пераадолець класічнай зрэгуляванасцю...

**На сваёй струне**



**Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар**

**Бах Матэт —**

класіка эпохі. Маркер часу. Раўнавага формы і зместу. Цесная сувязь са словам (ад фр. *mot*). Музыка — знак. Музыка — вобраз. Кароткая фраза, што абуджае дух…

***Лістапад выцягвае з-пад спуду часу толькі яму вядомыя эпізоды, узняў імгненні да зор і быццам застаўся задаволены: «…бо тлумнае праявіцца забытым… і толькі тое, што паспеў зрабіць ты, твае аблічча створыць для нашчадкаў» (Б. Жанчак). Усміхнуўся. Пераглядзеў адценні святлацену. Гульню непрадказальнай рэальнасці. Маскі. Твары пад імі. Аблічы. Постаці. Апосталы… Досыць лабірынтаў. Выйсці з тупіка. Вызваліца. Убачыць святло. Адпусціць сапалоханую гусь. Абмінуць усе адценні шэрага.***

***Перагартаць старонкі. Чамусьці гэта важна. Паразмаўляць з прасторай, якая сёння такая прыязная, гасцінная і лагодная… Лістападу важна пакінуць тут, у гэтым дні, свой раз'юшаны ветрам аўтограф. Ён ведае, што гэты раздзёрты ветрам ружанец нейкім дзіўным чынам застанецца ў целе сённяшняга дня. Бо ў гэтым дні можна жыць. Доўга. Дзень стане целам месяца, месяц — часткай года. Год дасць новую кладку ў гісторыі і калі-небудзь узрадуецца, будзе шчаслівы тым, што на яго плечы ўздзябурылася наіўна-светлае, вымкнутае з чэрава чалавецтва сінявокае дзіцяня, якое захоча ўбачыць новыя гарызонты і на свой лад выткаць «замест персідскага ўзору цвяток радзімы...».***

**P. S.**

У Верхнім горадзе падзея: Гімны беларускага Сярэднявечча, *Ave Maria, Paternoster*, Якуб Колас загучаць зноў. Новым дыханнем. Там сустрэнуцца мінуўшчына з будучынёй. Завітай і ты! Пад скляпеннем **канцэртнай залы «Верхняга горада»**, што месціцца ля гарадской Ратушы, свае галасы ўздыме **Дзяржаўны камерны хор Беларусі**. Шэсце ўзначаліць святы Марцін: гэта яго дзень, **11 лістапада**. Абяцаў не спазніцца. Пастаяць ля афішы **«З будучыні ў мінулае»**. Увайсці пад вышыню скляпенняў і ахінуцца шматгалосым гучаннем шматгалосага каралеўства. Заходзь і ты, дружа! Пад вішняй у квецені не бывае лішніх!

# Музыка, што яднае народы

**Поўная трагізму і лірычнай прыгажосці опера «Травіята» Джузэпэ Вердзі ператворыцца ў глабальны міжнародны праект: 27 кастрычніка пастаноўку пакажуць пры поўным аншлагу ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі.**

Рэжысёрам, якая інтэрпрэтавала оперу для беларускай сцэны, стала Сусана Цырук. Гэта будзе перадапошні паказ, затым пастаноўка пройдзе толькі ў лістападзе. Але «Травіята» не знікне з рэпертуару, а адродзіцца ў будучым годзе ў абноўленай версіі. Чаму праект міжнародны? У трупе занятыя як беларускія, так і французскія, італьянскія оперныя артысты. Дырыжыраваць будзе маэстра Франсуа Рабэр Жыралямі наўпрост з Францыі. Першапачаткова опера мае на ўвазе шматнацыянальны падтэкст. Як вядома, Джузэпэ Вердзі грунтаваўся пры стварэнні свайго легендарнага твора на рамане Аляксандра Дзюма-сына «Дама з камеліямі».

Чым тлумачыцца папулярнасць «Травіяты»? Гэта класіка, твор на стагоддзі, зразумелы, напэўна, кожнаму, хто ўмее адчуваць шчыра і ўдумвацца глыбока. Закранае вечныя тэмы кахання і смерці, сацыяльных і маральных забабонаў і каштоўнасцей. Фрагменты мелодый на слыху ва ўсім свеце. Так што нядзіўна, што на мінскую пастаноўку квіткі ўжо раскупілі. Опера стала ячшэ і часткай XVI Тыдня італьянскай мовы ў сталіцы. «Травіята» стала сумесным праектам Вялікага тэатра Беларусі, Пасольства Італіі ў Беларусі і Пасольства Францыі ў нашай краіне.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Філасофія радзімы

## як аснова творчасці Уладзіміра Савіча

Дакрануцца да роднай зямлі, вярнуцца да каранёў і ўспомніць, хто ты ёсць па светаўспрыманні, веравызнанні і, галоўнае, хто ты ўнутры сябе, якую энергетыку даеш наваколлю… Гэтыя пытанні разгледжаны мастаком Уладзімірам Савічам падчас падрыхтоўкі твораў да персанальнай выстаўкі «Брама-Парог-Дзверы», якая з мінулага тыдня працуе ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага.

Уладзімір Савіч — мастак унікальны. Індывідуальныя рысы яго творчасці пазнаюць мастацтвазнаўцы і гледачы па ўсім свеце. Работы аўтара знаходзяцца як у айчынных музеях, так і ў музеях ды прыватных калекцыях замежных гарадоў, некалькі твораў ёсць у Траццякоўскай галерэі. Мастак раскрывае тэмы роднага краю, філасофію радзімы і яе высакародную атмасферу. Напэўна, такая пяшчота і душэўная шчырасць і прываблівають увагу да творчасці Уладзіміра Савіча.



*Мастак Уладзімір Савіч з прывітальным словам на адкрыцці выстаўкі.*

Новы праект мастака «Брама-Парог-Дзверы» стаў сапраўдным адкрыццём: наведвальнікі, знаёмыя з творчасцю мастака раней, былі здзіўлены кардынальнай зменай стылю Уладзіміра Савіча. Справа ў тым, што творцу прывыклі ўспрымаць як выдатнага мастака-графіка, работы якога змешчаны ў шматлікіх альбомах, прысвечаных сучаснаму беларускаму мастацтву і традыцыйнай культуры. Новы праект не ўключае ніводнай графічнай работы: у экспазіцыі прадстаўлена каля пяцідзесяці жывапісных палотнаў, большасць з якіх экспануюцца ўпершыню. Гэта абсалютна новы напрамак для мастака, дзе ён сумяшчае розныя тэхнікі: акрыл, алей, калаж.

Па словах Уладзіміра Савіча, графіка — гэта ўсё ж такі шкло, якое, бывае, не дазваляе атрымаць кантакт з палатном, перашкаджае дыялогу твора і гледача. А паколькі работы мастака складаныя тэхнічна, па колеры і сумяшчэнні дэталяў, ён вырашыў выкарыстаць палатно, каб яно больш спрыяла ўспрыманню тэм і вобразаў.

На адкрыцці выстаўкі рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна выступіў з прывітальным словам і адзначыў лёгкасць і творчую свабоду аўтара выстаўкі:

— Уладзімір Савіч не толькі мастак і прафесар Акадэміі мастацтваў — ён гонар для ўсёй Беларусі. Сёння ўспамінаю работы Уладзіміра Пятровіча ў 80-х гадах і разумею, колькі яшчэ задумак у гэтага мастака. Сённяшнія работы дэманструюць шлях да творчай свабоды. Між яго акварэльных дрэў — сцяжынкі, цьмянасць і спакой якіх выяўляюцца ў сплаве колераў, тону, кантрастаў, фармату. Уладзіміра Пятровіча характарызуе лёгкасць і раскаванасць, што сведчыць пра дасведчанасць, упэўненасць у асабістым майстэрстве, думках, меркаваннях. Тут з лёгкасцю і аднačасова трываласцю мастак сцвярджае сябе такім, які ён ёсць, непадобным ні да каго. Творы Уладзіміра Савіча можна лічыць дапаможнікамі для творчай моладзі, але мне здаецца, што сэнс іх больш глыбокі. Гэта менавіта яго беларуская якасць — заўсёды быць фундаментальным ці манументальным і ствараць узор як у класічнай акадэмічнай манеры, так і ў мастацтве нефігуратыўным. Гэтая выстаўка дэманструе ансамблевасць і пэўнае бачанне шляху да свабоды Уладзіміра Савіча. Кожны твор майстра — удалы прыклад развіцця. Нават у рэчах абстрактных, нефігуратыўных зноў знаходзяцца блізкія, вядомыя архетыпы — беларускія пагоркі, неба, якое заўсёды бывае розным. На гэтай выстаўцы на адным палатне могуць сумяшчацца колеры, якія не спалучаюцца, але ж пад чароўнай рукой Уладзіміра Пятровіча становяцца адным цэлым.

Для мастака не існуе пытання сумяшчэння творчага поспеху і камерцыйнага. На думку Уладзіміра Савіча, калі творы актуальныя і вартыя, то пакупнік заўсёды знойдзецца, магчыма, не адразу... Толькі галоўнае ў мастацкім працэсе — не блытаць актуальнае з модным, бо мода — працэс зменлівы і не заўсёды глыбокі.

Уладзімір Савіч — адзін з тых мастакоў, які на працягу доўгіх гадоў ва ўласнай творчасці развівае тэму фальклору, беларускай культуры. На яго погляд, культура дазваляе чалавеку дыхаць глыбей. Таму новы праект мастака — гэта заклік памятаць свае карані, адчуць іх моц і звярнуць увагу на прыгажосці роднай зямлі. Як напісала ў прадмове да каталога новых твораў аўтара мастацтвазнаўца Вольга Каваленка, Уладзімір Пятровіч належыць да таго кола творцаў, для якіх эстэтычная катэгорыя прыгажосці не страціла актуальнасці і філасофскага зместу.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**



*«Малітву слухаюць вякі», 2016 г.*

## Культурны ракурс

**На скрыжаванні вуліц Еўфрасінні Полацкай і Касманаўтаў, за сто метраў ад Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, можна пабачыць бронзавы помнік Мікалаю Цудатворцу. Узведзены ён у 2009 годзе пры падтрымцы расійскага дабрачыннага фонду Свяціцеля Мікалая Цудатворца на месцы разбуранай у савецкі перыяд манастырскай капліцы. Менавіта ў ёй у 1910 годзе быў зроблены апошні прыпынак Крыжовага шляху падчас пераносу мошчаў святой Еўфрасінні Полацкай з Кіева-Пячорскай лаўры ў Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Цяпер 3,5-мутровы помнік Мікалаю Цудатворцу — работа заслужанага мастака Расіі Сяргея Ісакава — з'яўляецца напамінам пра важныя для беларускага народа ўрачыстасці, а яшчэ — пра Полацкі Свята-Мікалаеўскі кафедральны сабор, які доўгі час быў галоўным храмам горада.**

**Наталля ШАСТАКОВА**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас **lim_new@mail.ru** з пазнакай **«Культурны ракурс»** — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
27.10.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1594.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4041

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686